# Коопэрацыя Б.С.С.Р.



ЧАСОПІСЬ
БЕЛКООПСАЮЗУ
І БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ

3-4

1931

МЕНСК

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЕЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КООПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІСЬ БЕЛКООПСАЮЗУ і БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ
ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЁН



10 лютага—20 сакавіка

№ 3-4




МЕНСК 1931

# ЗЬМЕСТ

Стар.

**Хаскін.**—Баявымі бальшавіцкімі тэмпамі выканаем пастановы сьнежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК і ЦКК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б . . . . . . . . . 3

**Рубэн.**—Палепшым абслугоўваньне абагуленага сэктару сельскае гаспадаркі . . 10

**Рубін.**—Зачыненыя рабочыя коопэратывы . . . . . . . . . . . . . . . . . . 13

**Нісэнбаум.**—Больш увагі справе хлебапячэньня . . . . . . . . . . . . . . 15

**Арлоўскі.**—Мобілізуемся на вырашэньне мясной проблемы . . . . . . . . . . 16

**Шэйнін.**—Мобілізацыю сродкаў—на першы плян . . . . . . . . . . . . . . . 17

**На сустрэчу 2-й бальшавіцкай**

**Сулькіна.**—Становішча прыгарадных гаспадарак і падрыхтоўка іх да вясеньняй пасеўнай кампаніі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 19

**С. Д.**—Спажкоопэрацыя на абслугоўваньне 2-й бальшавіцкай . . . . . . . . . 25

**Коопэрацыйная трыбуна**

**Нялюбы Алесь.**—Гора Буцяніха . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 27

**К. Л. Н.**—Кулацкія падпявалы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 28

**А. С.**—Культурна-выхаваўчая праца адсутнічае . . . . . . . . . . . . . . 28

**Коопэратор.**—Шкоднікаў вон з коопэрацыі . . . . . . . . . . . . . . . . 29

**Рабкор „Ізо“.**—Самаўпэўнены ілжэўдарнік . . . . . . . . . . . . . . . . 29

**Селькор.**—Дрэнны загатоўца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29

Рэзолюцыі 2-й сэсіі савету БКС . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30

**Бібліографія** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 47

Галоўлітбел № 838. Заказ № 1224—2000 экз. „Палесдрук“, Гомель.

**„ТОЛЬКІ ПРЫ РАШУЧАЙ ПЕРАБУДОВЕ ЎСЯЕ РАБОТЫ, НА АСНОВЕ ГРАМАДЗКАЙ ОРАНІЗАЦЫІ МАС ВАКОЛ АСНОВНЫХ ЗАДАЧ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЯ І ПРАВІЛЬНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ ФОРМ РАЗЬМЕРКАВАНЬНЯ, СПАЖЫЎКООПЭРАЦЫЯ ЗДОЛЕЕ ДАБІЦЦА КАРЭННАГА ПАЛЕПШАНЬНЯ СВАЕ РАБОТЫ“**

**(З рэзолюцыі аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б)**

**Хаскін**

# Баявымі бальшавіцкімі тэмпамі выканаем пастановы сьнежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК і ЦКК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б

*(З дакладу на II сэсіі савету Белкоопсаюзу)*

За апошні час аб рабоце спажывецкай коопэрацыі мы мелі рад важнейшых рашэньняў партыі: пастанову ЦК УсеКП(б) ад 15 мая аб рабоце спажывецкай коопэрацыі, спэцыяльную пастанову ЦК УсеКП(б) аб масавым рабочым контролі над работай спажывецкай коопэрацыі, важнейшыя рашэньні XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду ЎсеКП(б) у адносінах работы спажывецкай коопэрацыі і, нарэшце, спэцыяльныя пастановы аб спажывецкай коопэрацыі сьнежаньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.



Бальшавіцкая вясна.

### Роля спажыўкоопэрацыі ў разгорнутым социялістычным будаўніцтве

З гэтых партыйных докумэнтаў можна бачыць, што партыя з усёй сур'езнасьцю разглядае становішча работы спажывецкай коопэрацыі. Партыя з усёй рашучасьцю ставіць перад спажыўкоопэрацыяй цэлы шэраг важнейшых задач.

Чаму з такімі рашучымі мерапрыемствамі, асабліва ў апошніх рашэньнях, партыя падыходзіць да спажывецкай коопэрацыі? На гэтае пытаньне трэба даць наступны адказ: роля спажывецкае сыстэмы ва ўсім нашым разгорнутым соцыялістычным будаўніцве надзвычайна вырасла.

У час разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва спажыўкоопэрацыя павінна адыграць вельмі вялікую ролю, пры чым ва ўмовах вялізарнейшага росту матар'яльнага і культурнага становішча рабочае клясы, вялізарнага росту колгасных мас, на падставе соцыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі, ва ўмовах, калі ўсе запатрабаваньні

рабочае клясы і колгасна-бядняцкіх мас вёскі ня могуць быць на гэты адрэзак часу поўнасьцю задаволены, работа гэтай важнейшай снабжэнчай організацыі, спажыўкоопэрацыі, яшчэ больш ускладняецца. У залежнасьці ад таго, як гэта работа будзе пастаўлена, наколькі яна будзе адпавядаць дырэктывам партыі, у значнай меры будуць пасьпяхова выкананы ўсе тыя вялізарнейшыя задачы, якія стаяць перад намі ў справе социялістычнага будаўніцтва.

Выяўленьне ў рабоце сыстэмы вялікіх недахопаў патрабавала сур'ёзнай і выключнай увагі да становішча сыстэмы спажыўкоопэрацыі з боку рабочае клясы. Вось чаму патрабаваліся выключна суровыя, але-ж зусім правільныя, рашэньні Цэнтральнага комітэту ЎсеКП(б) і Цэнтральнага комітэту КП(б)Б у адносінах да спажывецкай коопэрацыі.

## Організацыйная перабудова сеткі— безадкладная і баявая задача сыстэмы

Надзвычайна важна прааналізаваць, як выконваюцца гэтыя важнейшыя рашэньні партыі сыстэмай спажыўкоопэрацыі. Трэба падсумаваць вынікі выкананьня гэтых задач, трэба з усёй сур'ёзнасьцю прааналізаваць, чаму пасьля такіх катэгорычных дырэктыў партыі, пасьля такіх рашучых патрабаваньняў партыі аб палепшаньні работы сыстэмы, гэтыя рашэньні ўсё-ж праводзяцца вельмі марудна, у выніку чаго ў паасобных выпадках наглядаюцца опортуністычныя адносіны да выкананьня пастаўленых задач. У мяне ёсьць надзвычайна многа фактаў, сабраных з практыкі работы, якія сьведчаць аб тым, што дрэнная работа нашых асобных організацый, у тым ліку БКС, у паасобных галінах тарма-



**Зачынены разьмеркавацель. Работніцы пасьля работы атрымліваюць гатовыя продукты.**

зіла пасьпяховае соцыялістычнае будаўніцтва.

Пленумы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б паставілі перад сыстэмай, спажыўкоопэрацыі задачу організацыйнай перабудовы ўсёй сыстэмы, як гарадзкой, так і сельскай, у напрамку організацыі выбарчых кооопэратываў пры буйнейшых фабрыках і заводах, выбарчых коопэратываў на сяле.

Да гэтага часу праўленьне райспажтаварыства на раёне па сутнасьці зьяўлялася бюрократычнай конторай, якая ня была непасрэдна зьвязана з масамі, была далёка ад мас, ад сельсаветаў і г. д. Таму пленумы ЦК і ЦКК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б паставілі рашуча наступнае пытаньне: тэрмінова аднавіць выбарчыя коопэратывы на сяле, стварыўшы вакол гэтых выбарчых коопэратываў шырокую грамадзкую думку і масавы контроль навакол усёй працы, уцягнуць масы непасрэдна ў работу коопэратываў, пабудаваць усю работу сыстэмы на аснове грамадзкіх мэтодаў працы, уцягнуць у кіруючыя органы нізавой коопэрацыйнай сеткі шырачэйшыя масы рабочых, колгасьнікаў, беднякоў і г. д.

На базе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, росту соцыялістычнай прамысловасьці, росту рабочае клясы, поўнага пераходу ўсіх пытаньняў забесьпячэньня і абслугоўваньня спажыўца непасрэдна ў рабочую коопэрацыю рабочы коопэратыў зрабіўся надзвычайна грамозным, шматгранным.

Нашы ЦРК, заняўшыся ўсімі пытаньнямі, мала клапаціліся аб абслугоўваньні спажыўца, і гэтая важнейшая галіна працы ЦРК усё больш і больш адсоўвалася на задні плян, стала другарадным пытаньнем, і таму абслугоўваньне рабочага спажыўца стала па-за цэнтрам увагі рабочага коопэратыву. Адсюль узьнікла задача разубуйненьня цэнтральных рабочых коопэратываў. Гэта разубуйненьне, выходзячы з пастаноў пленумаў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, павінна праводзіцца па лініі стварэньня самастойных рабочых коопэратываў пры буйнейшых фабрыках і заводах, стварэньне якіх значна наблізіць коопэратыў да мас, створыць больш лепшыя ўмовы для ўцягненьня рабочых мас для актыўнага ўдзелу ў рабоце коопэрацыі. Такое-ж становішча атрымалася і з абслугоўваньнем транспорту. Пасьля зьліцьця ТСТ з ЦРК абслугоўваньне рабочых чыгункі ня толькі не палепшылася, але пагоршылася. Таму паўстала пытаньне аб аднаўленьні ТСТ дзеля таго, каб наблізіць абслугоўваньне да рабочых чыгуначнікаў.

Вось у сувязі з чым Цэнтральны комітэт УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б паставілі перад намі катэгорычную задачу рэорганізацыі сеткі, аднаўленьня выбарнасьці на сяле, разубуйненьня ЦРК, стварэньня рабочых коопэратываў і організацыі транспортных коопэратываў.

**Рэорганізацыя праходзіць недапушчальна марудна.**

Мы зараз ужо маем разгорнутую работу на вёсцы па рэорганізацыі сеткі і аднаўленьні сельСТ.

Мы павінны ў БССР організаваць на сяле прыблізна каля 1500 новых выбарчых коопэратываў, організаваць 22 гарСТ, 13 рабочых коопэратываў пры саўгасах і такую-ж колькасьць на вёсцы пры прадпрыемствах, у якіх налічваецца каля 200 рабочых.

Але работа па рэорганізацыі праходзіць недапушчальна марудна. Шэраг матар'ялаў сьведчыць аб тым, што ў большасьці раёнаў пытаньне рэорганізацыі не абмеркавана ў адпаведных кіруючых організацыях.

Выяўляецца, што шэраг раённых спажывецкіх таварыстваў упарта ігноруюць дырэктыву аб рэорганізацыі, ня лічаць гэта важнейшай ударнай задачай, зацягваюць рэорганізацыю і г. д. Гэта значыць, што яны праяўляюць правы опорту-

нізм на практыцы ў пытаньні выкананьня гэтай важнейшай дырэктывы партыі.

Мы гэтую справу зацягваць ня можам. Нам патрэбна будзе выправіць цэлы шэраг памылак, якія ёсьць па рэорганізацыі сеткі. Рэорганізацыя павінна быць скончана не пазьней 10 сакавіка. Да гэтага часу павінны ўжо існаваць сельскія спажыўтаварыствы.

Адным з галоўных пытаньняў, у зьвязку з організацыяй сельСТ, зьяўляецца пытаньне аб стварэньні для апошніх матар'яльнай базы. Справа павінна быць пастаўлена ў такім напрамку, што цэнтр опэрацыйнай і загатоўчай работы павінен быць з моманту організацыі перанесены ў сельСТ. Ніякіх адхіленьняў абязьлічваньня опэрацыйна загатоўчай работы нельга дапускаць. Наадварот, з рэорганізацыяй, з канчатковым устанаўленьнем сельСТ уся опэрацыйная дзейнасьць павінна быць сконцэнтравана, ў сельСТ. Рэорганізацыя райСТ у райсаюз павінна праходзіць з пункту погляду застаўленьня за райсаюзам агульнага і організацыйнага кіраўніцтва—сачыць за тым, каб сельСТ правільна праводзіла снабжэнчую лінію, правільна работала ў галіне загатовак і г. д.

У справе стварэньня рабочых коопэратываў па горадзе мы маем ня лепшае становішча, чымся на сяле. Калі тут справа дайшла да падзелу маемасьці, фінансаў і інш., дык пачаўся гандаль паміж паасобнымі ЦРК. Мы павінны праз зачыненыя рабочыя коопэратывы палепшыць абслугоўваньне рабочае клясы, і таму зусім зразумела, што для спрэчак за кожную лішнюю краму няма ніякіх падстаў, бо гутарка ідзе аб лішняй краме для рабочага коопэратыву пры важнейшым прамысловым прадпрыемстве. Пры чым-жа тут гандаль?

Такія адносіны да справы інакш як праявай элемэнтаў гандлярства характарызаваць нельга. Трэба рашуча зьнішчыць усялякія затрымкі, тормазы і максымальна дапамагчы справе організацыі зачыненых рабочых коопэратываў, памятаючы, што зачынены рабочы коопэратыў павінен забясьпечвацца таварамі ў першую чаргу.

Разам з гэтым мы павінны сур'ёзна праверыць работу зачыненых разьмеркавальнікаў.

Дырэктыва пленуму ЦК КП(б)Б аб поўнай увязцы справы забесьпячэньня з выкананьнем прамфінпляну асобнымі прадпрыемствамі, аб падвышаным забесьпячэньні ўдарнікаў, колгасьнікаў, у параўнаньні з адзінаасобнікам, у нас яшчэ ў жыцьцё практычна не праводзіцца.

### Справа забесьпячэньня—адзін з вагароў соцыялістычнага будаўніцтва

Нам трэба будзе ўвесьці, як сыстэму, заахвочваньне ўдарніцтва. Трэба дабіцца такога становішча, пры якім мы мелі-б поўны вучот ударнікаў, ведалі-б аб іх колькасьці на прадпрыемстве. Трэба належным чынам паставіць вучот выкананьня прамфінпляну, бо мы ня можам разглядаць пытаньне забесьпячэньня наогул. Мы разглядаем гэтую справу, як адзін з вагароў, праз які мы ўзмацняем тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва,

Вось з якога пункту погляду трэба пабудаваць справу забесьпячэньня, інакш мы рашэньня партыі ня выканаем, інакш мы будзем заставацца ў такім становішчы, у якім мы знаходзімся зараз. Перавага новага парадку забесьпячэньня і будзе заключацца ў тым, што мы ў першую чаргу забясьпачым важнейшыя галіны прамысловасьці. Перавага гэтая заключаецца яшчэ і ў тым, што мы гэтыя фонды ня дробнім, а концэнтруем на пэўных вучастках.

### У максымальнай ступені скарыстаць мясцовыя рэсурсы

Перад намі стаіць вельмі сур'ёзная задача—папаўненьне значнай колькасьці не хапаючых продуктаў і тавараў. Гэты недахоп мы зможам

перакрыць толькі двума шляхамі: першы шлях—гэта жорсткая эканомія ў выдаткаваньні і рашучае выкідваньне з коопэрацыі мёртвых душ; другі шлях—гэта максымальнае пашырэньне мясцовых крыніц. Разьлічваць на павялічэньне цэнтралізаванага забесьпячэньня нам нельга. Такія разьлікі прывядуць нас да таго, што мы, спадзяючыся на продуктаў і тавараў, адпаведная эканомія ў выдаткаваньні.

Возьмем, напрыклад, справу з хлебам. Збожжавую проблему мы ў асноўным вырашылі. Партыя і рабочая кляса дабіліся таго, што хлеба ў нас хапае, і мы яго адпускаем, колькі патрэбна. Але ў выніку гэтага ў нас заняліся самым агідным неэкономным выдаткаваньнем хлеба і ў сталоўках, і ў ларкох, і ў буфэтах і г. д.



4000 валоў для забесьпячэньня мясам рабочых цэнтраў.

гэта, ня будзем прымаць мер у адносінах скарыстаньня тых крыніц, на якія спасылаліся. Перарэгістрацыя пайнікаў па БССР выявіла 82.500 мертвых душ па ЦРК, іншымі словамі, мы кармілі ў гарадох мясам, цукрам і хлебам 82.500 чалавек, якія па сутнасьці справы ня існуюць. Па Менскім ЦРК выяўлена 16.000 мёртвых душ, Віцебск карміў каля 10.000 мертвых душ і г. д. Таму мы маем поўную падставу сьцьвярджаць, што першай крыніцай перакрыцьця недахопаў зьяўляецца пільная ўвага да справы выдаткаваньня

Таму трэба выключную ўвагу сконцэнтраваць на экономіі хлеба, на тым, каб у нас у сталоўках адпускалася такая колькасьць хлеба, якую выклікае сапраўдная патрэба ў ім. Ларком трэба адпускаць тую колькасьць, якая адпавядае колькасьці прымацаваных да ларка.

**За рашучы пералом у загатоўках**

У галіне мобілізацыі мясцовых рэсурсаў у нас ёсьць шмат магчымасьцяй. Пляны загатовак павінны

быць абавязкова выкананы. Мы яшчэ не арганізавалі сеткі зборшчыкаў з колгасьнікаў і беднякоў, чым ня выканалі дырэктывы ЦК. Справа загатовак па паасобных відах ідзе вельмі дрэнна. Рад спажывецкіх таварыстваў адносяцца да загатоўчай работы бюрократычна, праводзяць работу самацёкам і праяўляюць у гэтым пытаньні махровы опартунізм на практыцы. Чым тлумачыцца, што на 26 лютага загатоўлена толькі 6 проц. пляну канюшыны, 22 проц. вікі, 4 проц. сэрадэлі, 1,8 проц. лубіну, 7,5 проц. буракоў і 12 проц. гуркоў, у той час калі адзін Старобінскі раён мае магчымасьць выканаць увесь плян? Загатоўка цыбулі складае толькі 9 проц. пляну, у той час калі адно Церахоўскае спажывецкае таварыства можа выканаць увесь плян. Пытаньне загатовак павінна атрымаць рашучы пералом у нашай сыстэме ва ўсіх зьвеньнях.

### За строгую фінансавую дысцыпліну

Рашэньне пленуму ЦК КП(б)Б аб неабходнасьці ўкараненьня строгай фінансавай дысцыпліны ва ўсёй рабоце спажыўкоопэрацыі, устанаўленьня плянавасьці ў выдаткаваньні сродкаў, катэгорычнай забароны выдаткаваньня сродкаў па-за плянам—усе гэтыя рашэньні яшчэ далёка ня выкананы. Дастаткова сказаць, што на 20 лютага плян мобілізацыі сродкаў па спажыўкоопэрацыі выкананы ўсяго на 33 проц. Цэлы рад раёнаў выканалі плян мобілізацыі сродкаў толькі на 7-10 проц. На апошнім сваім паседжаньні праўленьне пастанавіла перадаць судовым органам рад праўленьняў спажыўтаварыстваў і патрабаваць з боку органаў прокуратуры суровага суду над вінаватымі. Організацыі забываюцца, што ў агульным пляне мобілізацыі сродкаў вялікае значэньне набывае выкананьне пляну коопэраваньня, а тымчасам плян коопэраваньня ня выконваецца. Рэорганізацыя сеткі, стварэньне сельСТ на вёсцы павінны зьявіцца вялікай базай для мобілізацыі сродкаў і збору паявых капіталаў. Новая сыстэма дасьць магчымасьць строга плянаваць работу, увесьці жорсткую экономію сродкаў. Мы павінны паставіць работу так, каб ніводная капейка са сродкаў коопэрацыі па-за плянам не выдаткоўвалася.

### Веснавой сяўбе ў прыгарадных гаспадарках выключная ўвага

У галіне разгортваньня прыгарадных гаспадарак пленум ЦК вызначыў конкрэтныя ліміты засеву агародных культур, ліміты адкорму сьвіней, разьвіцьця малочнай гаспадаркі і г. д. На сёньняшні дзень выкананьне гэтых лімітаў знаходзіцца пад пагрозаю зрыву. Падрыхтоўка да веснавой пасеўнай кампаніі ў прыгарадных гаспадарках праходзіць надзвычайна нездавальняюча. Дрэнна абстаіць справа з вывазкай угнаеньня, з укомплектаваньнем гаспадарак цягавай і рабочай сілай. Праўда, тут віна ня толькі нашых організацый, але і іншых як Наркомзему, якія ня выконваюць рашэньняў пленуму так, як гэта патрэбна. Пытаньне выкананьня гэтых лімітаў павінна стаяць у цэнтры работы кожнага праўленьня ЦРК. Усё астатняе павінна быць падпарадкавана выкананьню гэтай важнейшай задачы бо ад гэтага залежыць далейшая работа рабочага коопэратыву. Ад таго, як Віцебскі, Менскі, Гомельскі ды іншыя ЦРК будуць выконваць праграму работы па разьвіцьці прыгараднай гаспадаркі, будзе залежаць выкананьне пляну, забесьпячэньне рабочых гэтых гарадоў на ўвесь год.

### Шкодніцтва ў апараце Белкопсаюзу

У галіне плянаваньня і завозу тавараў у БССР, як і ва ўсім СССР, мела месца шкодніцтва. Шкоднікі накіроўвалі свае стрэлы ў таваразварот, у галіну плянаваньня і фінансавай дзейнасьці.

Тавар завозіўся неадпаведна патрэбе і колькасьці данага раёну; тавар завозіўся ня ў тэрмін. Усё гэта было аднэй з цэнтральных задач шкодніцкай організацыі Белкоопсаюзу. „Сплянаваць“ справу завозу солі з такім разьлікам, каб у Гарадку было на чатыры гады солі, а ў шэрагу іншых раёнаў на 3 дні, і потым везьці гэтую соль з Гарадку ў Лепель, а з Лепеля ў Мазыр, гэта было цэнтральнай задачай шкодніцкай організацыі Белкоопсаюзу. Зблытаць увесь таваразварот, зрабіць разрыў паміж плянам забесьпячэньня і выкананьнем політычна-гаспадарчых задач, выклікаць абурэньне аднэй часткі насельніцтва супроць другой—гэта было мэтавай установкай шкодніцкай організацыі Белкоопсаюзу.

Выяўляючы гэтую шкодніцкую дзейнасьць контррэволюцыянэраў, якія сядзелі ў Белкоопсаюзе, выяўляючы шкоду, якую нанесьлі контррэволюцыянэры, мы павінны зараз з асаблівай увагай і энэргіяй узяцца за зьнішчэньне спадчыны сашкодніцтва, за пераапрацоўку самога пляну забесьпячэньня, строга выходзячы з рашэньняў пленуму ЦК нашае партыі. Бяда Белкоопсаюзу заключаецца ў бюрократычным правядзеньні большасьці пытаньняў плянаваньня, завозу тавараў. Ён недарабіў галоўнага—недастаткова контроляваў, як разьмеркаваны плян даводзіцца да кожнага раёну і ЦРК. Бяда заключалася ў тым, што аб паступленьні тавараў да рабочага, аб вучоце разьмеркаваньня ЦРК нічога ня было вядома: ён гэтым не займаўся.

Бяда ЦРК заключалася ў тым, што яны не займаліся пытаньнем, як разьмяркоўваецца тавар па крамах, як паступае тавар да кожнага рабочага. Таму і атрымаліся вялікія прарывы і перабоі ў забесьпячэньні рабочае клясы.

Бяда райспажыўтаварыстваў заключалася ў тым, што паступаючы ў раён тавар разьмяркоўваўся бюрократычным чынам, райспажыўтаварыства не контролявала, куды гэты тавар паступаў. Райспажыўтаварыства гэты тавар мэханічна перадавала ў адпаведныя крамы. У большасьці тавары заставаліся ў мястэчках, а ў нізавыя крамы паступала вельмі мала тавараў. РСТ не сачылі за тым, каб правільна разьмяркоўваць тавары, каб колгасьнік у сапраўднасьці атрымліваў тавары ў першую чаргу і па падвышанай норме.

Пытаньне забесьпячэньня ніколі не стаяла так актуальна, як зараз.

### Уліць у апарат коопэрацыі людзей, адданых справе рабочае клясы

Мы павінны зараз як ніколі ўзмацніць пільнасьць ва ўсёй рабоце, у кожным дробным пытаньні. Мы павінны быць бязьлітаснымі да кожнай памылкі, якая дапушчаецца апаратам, асобнымі работнікамі, да работы, якая не адпавядае дырэктывам нашай партыі. Мы абавязаны скончыць з нядбайнасьцю, самацёкам, вырашэньнем пытаньня на хаду, не праверыўшы, не прагледзеўшы і не прадумаўшы яго. Нам трэба рашуча заняцца вывучэньнем нізавога актыву, вылучэньнем яго на больш адказную работу, вылучэньнем работнікаў прылаўку, загадчыкаў складаў, работнікаў грамадзкага харчаваньня, сельСТ і г. д. на вышэйшыя коопэрацыйныя пасады і запоўніць апарат людзьмі, адданымі справе рабочае клясы. На кожнага з нас павінна легчы ў дзесяць раз большая адказнасьць за зьнішчэньне сьлядоў, якія нанеслі нам шкоднікі, у далейшым разгортваньні работы адпаведна рашэньням партыі. Мы павінны заклікаць увесь апарат, усіх работнікаў да пільнасьці, да хутчэйшых тэмпаў у рабоце. Толькі на падставе такой работы мы зможам актывізаваць увесь актыў і мобілізаваць яго на вырашэньне задач, пастаўленых перад намі партыяй.

---

Рубэн

# Палепшым абслугоўваньне абагуленага сэктару сельскае гаспадаркі

*(З дакладу на 2-й сэсіі Белкоопсаюзу)*

Пытаньне аб палепшаньні абслугоўваньня соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі пастаўлена намі таму, што ў нас справа з абслугоўваньнем абагуленага сэктару сельскае гаспадаркі абстаіць нездавальняюча. Тая роля, якую мае абагулены сэктар сельскае гаспадаркі ў вёсцы і ва ўсёй народнай гаспадарцы, у значнай частцы раёнаў спажкоопэрацыі ня ўлічваецца. Мы мелі на 1-І—1931 г. 4112 колгасаў, а зараз—звыш 5.000. На 1-І—1931 г. налічвалася 116.000 гаспадарак у колгасах, а зараз—каля 150.000 гаспадарак, аб'яднаных у колгасы. У колгасах каля 25 проц. усёй зямлі абагулена. Такім чынам зараз значнае месца займае соцыялістычны сэктар на вёсцы. Рост соцыялістычнага сэктару вымагае ад коопэрацыі яшчэ большага ўзмацненьня сваёй работы ў справе абслугоўваньня і забесьпячэньня. Тормазам у гэтай рабоце зьяўляецца слабое коопэраваньне саўгасаў і колгасаў.



Мы маем невыкананьне катэгорычных дырэктыў партыі і вышэйстаячых коопэрацыйных органаў аб коопэраваньні 100 проц. рабочых саўгасаў. Процант коопэраваньня роўны 80-85. Гэта недастаткова, і да апошняга часу саўгасныя масы рабочых ня ўцягнуты ў працу спажкоопэрацыі.

Культбытавая праца, якая павінна быць добра наладжана, недастаткова разгорнута. Мы маем такое

становішча, калі ў некаторыя саўгасы на працягу 2 гадоў ня была накіравана ніводная кіно-перасоўка езьдзіла вакол, а ў саўгасе ня была. Матар'ялы яскрава сьведчаць аб гэтым. Пры арганізацыі бытавых прадпрыемстваў у саўгасах і колгасах недастаткова зьвернута ўвага на арганізацыю масавай працы і матар'яльнага ўдзелу рабочых у гэтых культбытавых мерапрыемствах. Адчынялі ясьлі, пляцоўкі, але нічога не зрабілі, каб вакол гэтых мерапрыемстваў арганізаваць масу рабочых, іх удзел у гэтай справе і матар'яльную дапамогу. Асабліва дрэнна абстаіць справа з культбытавой працай у колгасах.

Грамадзкае харчаваньне, якое існуе ў саўгасах, ні ў якой меры не адпавядае патрабаваньням рабочых, прытоку рабочых у гэтыя сталоўкі.

Для забесьпячэньня рабочых саўгасаў вызначаны асобныя фонды прамтавараў, і спажкоопэрацыя павінна была гэтымі нормамі забясьпечыць рабочых саўгасаў і іх утрыманцаў. Аднак гэтыя нормы ў значнай частцы ня вытрымліваліся. Асобнымі арганізацыямі фонды тавараў, якія вызначаны рабочым, не выдаваліся. На гэту справу зьярталася, аднак, мала ўвагі, часамі даходзілі да абураючых адносін. Амаль тое самае было з прэм'яваньнем колгасаў.

Так абстаіць справа з забесьпячэньнем рабочых саўгасаў і колгасаў, але так не павінна быць у далейшым.

Пленум ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове рашыў: „Рашучым чынам перабудаваць усю работу па забесьпячэньні з пункту погляду выразнага клясавага разьмеркаваньня як прамтавараў, так і продуктаў харчаваньня, з улікам першачарговага абслугоўваньня асноўных прамысловых кадраў рабочае клясы социялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, поўнай увязкі забесьпячэньня з выкананьнем прамфінпляну, заахвочваючы павялічаным забесьпячэньнем ударнікаў, а таксама выкананьне вытворчай програмы социялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, саўгасаў і колгасаў".

Выкананьне вось гэтых рашэньняў пленуму спажывецкая коопэрацыя павінна паставіць у цэнтры сваёй працы.

Прызнаючы нашыя недахопы, мы павінны, што-б там ні было, у самы бліжэйшы час перабудаваць сваю работу з тым, каб, пачынаючы зьверху данізу, арганізоўваючы грамадзкасьць і актыў, так перабудаваць сваю работу, каб забесьпячэньне і абслугоўваньне социялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі былі пастаўлены ў такія ўмовы, каб дырэктыва партыі была поўнасьцю выканана, каб нашы мэтады работы садзейнічалі хуткаму разгортваньню колгаснага руху на вёсцы.

Якія мерапрыемствы могуць палепшыць гэтую работу? Мерапрыемствы, якія могуць палепшыць работу па абслугоўваньні абагуленага сэктару сельскае гаспадаркі, павінны быць наступныя.

Неабходна скончыць у самы бліжэйшы час арганізацыю 12 зачыненых рабочых коопэратываў у саўгасах (дзе ёсьць 200 рабочых і больш).

У астатніх саўгасах абавязкова павінны быць арганізаваны зачыненыя разьмеркавальнікі. Колькі-б рабочых ні было ў саўгасе, павінен быць зачынены разьмеркавальнік. Там, дзе большая колькасьць рабочых, там павінен быць зачынены разьмеркавальнік-крама, там, дзе менш рабочых, там павінен быць ларок. У галіне абслугоўваньня калгасаў таксама трэба перабудаваць працу. Як правіла, трэба зразумець, што ў тых колгасах, дзе крама знаходзіцца на адлегласьці больш як на 2 кілёмэтры, і дзе ня менш 50 гаспадарак у колгасе, трэба арганізаваць краму. Мы павінны зараз-жа прыняць усе захады да таго, каб гэтыя крамы былі арганізаваны. Гэтай справай павінны заняцца ад-

міністрацыя саўгасу па лініі саўгасу, і сам колгас—па лініі колгасу. Неабходна раз назаўсёды рашыць, пачынаючы з цэнтру, каб раён і сельСТ мелі цьвёрды плян забесьпячэньня. БКС павінен улічваць колькасьць саўгасаў у тым ці іншым раёне, скласьці плян забесьпячэньня саўгасаў раёну. Павінны быць тавары, продукты харчаваньня з тым, каб раён на основе гэтых плянаў абслугоўваў саўгас. Трэба гэтыя пляны скласьці на сельСТ і патрабаваць ад кожнага з іх поўнага выкананьня іх. Пасьля кожнага кварталу трэба складаць справаздачу выкананьня квартальных плянаў. Пляны для рабочых саўгасу павінны быць выкананы ў першую чаргу. Такія-ж пляны забесьпячэньня і контролю іх выкананьня павінны складацца па абслугоўваньню машынна-трактарных станцый. Акрамя гэтага, павінны быць абавязкова праведзены ў жыцьцё мерапрыемствы, якія-б забясьпечылі соцыялістычныя мэтоды працы ў колгасах. Трэба вылучыць падвышаныя фонды для забесьпячэньня ўдарнікаў, як рабочых саўгасу, так і колгасьнікаў. Гэта павінна быць выканана, пачынаючы з БКС і канчаючы саюзамі. Гэтыя фонды павялічанага забесьпячэньня рабочых-ударнікаў саўгасу і ўдарнікаў колгасу павінны быць вылучаны БКС, даведзены да раёну і разьмеркаваны паміж ударнікамі. Гэты мэтод будзе адпавядаць разгортваньню працы па выкананьню гаспадарчых плянаў як у саўгасе, так і ў колгасе. Саўгасы альбо колгасы, якія зьяўляюцца ўдарнымі, якія работаюць па-ўдарнаму, выконваюць гаспадарчыя пляны, павінны забясьпечвацца ў першую чаргу таварамі. БКС і райсаюзы павінны ўлічваць тыя раёны, дзе разгортваецца ўдарніцтва ў саўгасах альбо колгасах, для вылучэньня падвышаных норм забесьпячэньня.

З набліжэньнем веснавой пасеўнай кампаніі трэба перабудаваць працу такім чынам, каб мець магчымасьць зараз-жа палепшыць грамадзкае харчаваньне. У першую чаргу трэба даць сталоўцы лепшых працаўнікоў, прыстасаваць адпаведныя памяшканьні для гэтага за кошт саўгасаў. У гэтай справе саўгасы павінны прыняць самы актыўны ўдзел, каб рабочыя былі забясьпечаны адпаведнымі памяшканьнямі для організацыі харчаваньня і крамнага будаўніцтва, поўнасьцю давесьці да кожнага саўгасу нормы ў той колькасьці продуктаў харчаваньня, якая вызначаецца для гэтай мэты. Апрача гэтага, трэба організаваць ініцыятыву на мясцох, каб можна было атрымаць больш продуктаў харчаваньня шляхам адкормачных опэрацый у сталоўках, шляхам уцягненьня часткі пайнікаў, рабочых у справу грамадзкага харчаваньня, таксама неабходна зрабіць танным грамадзкае харчаваньне, сачыць за чыстатою і г. д. Грамадзкае харчаваньне павінна перабудавацца на абслугоўваньне гэтай важнай кампаніі.

Гаворачы пра абслугоўваньне соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, нельга абыйсьці моўчкі таго, што мы павінны ўжо зараз быць падрыхтаванымі да веснавога бальшавіцкага севу. Пытаньне аб падрыхтоўцы да веснавой пасеўнай кампаніі павінна стаць асноўнай работай раёну. На спажкоопэрацыю ўскладзены вялікія задачы ў справе абслугоўваньня веснавой пасеўнай кампаніі як сельскагаспадарчым інвэнтаром, так і рознымі вырабамі.

У гэтую вясну, калі на палёх БССР будзе працаваць 1700 трактараў, на спажкоопэрацыю ўскладзена вялікая адказнасьць забесьпячэньня іх гаручым матар'ялам. Ніхто нам ня прасьціць, калі мы машына-трактарныя станцыі гэтым матар'ялам не забясьпечым. Пытаньне забесьпячэньня трактараў гаручым матар'ялам для веснавой пасеўкампаніі мае вялікае значэньне.

Вось усе тыя мерапрыемствы, якія павінны быць зараз-жа ўжыты для выкананьня асноўных рашэньняў партыі па абслугоўваньню

соцыялістычнага сэктару. Загэтым мы павінны на працягу сакавіка-красавіка праконтроляваць усе мерапрыемствы, якія мы будзем праводзіць. Трэба паставіць справу так, каб тыя нормы, якія вылучаны для лепшага абслугоўваньня, скарыстаць поўнасьцю. Для выкананьня ўсіх задач, пастаўленых перад намі, мы павінны прыцягнуць усю масу рабочых саўгасаў і колгасаў, мобілізаваць усю грамадзкасьць для наладжваньня тых галін і вучасткаў, якія маюць прарыў. Толькі такім чынам мы зможам дасягнуць значных посьпехаў.

Рубін

## Зачыненыя рабочыя коопэратывы

Разгорнутыя тэмпы соцыялістычнай рэконструкцыі краіны патрабуюць ад спажывецкай коопэрацыі карэннай перабудовы сваёй работы „у бок бязумоўнага забесьпячэньня ў першую чаргу важнейшых вучасткаў соцыялістычнага будаўніцтва і ўвязкі справы забесьпячэньня з выкананьнем вытворчых плянаў". (Сьнежанскі пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б)




Па ініцыятыве рабочай грамадзкасьці і закліку газэты „Правда" высунута за апошні час новая форма рабочага забесьпячэньня, зачыненыя разьмеркавальнікі, якія, згодна ацэнцы апошніх пленумаў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, набываюць „важнейшае значэньне, як новая, апраўдаўшая сябе, арганізацыйная форма клясавага разьмеркаваньня продуктаў".

Зачыненыя рабочыя коопэратывы зьяўляюцца наступным этапам зачыненых разьмеркавальнікаў і павінны быць організаваны пры ўсіх буйных фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах. Асноўная задача ЗРК— лепшая організацыя рабочага забесьпячэньня, правядзеньне больш выразнай клясавай лініі ў гэтай працы і набліжэньне справы забесьпячэньня да вытворчасьці. Усю сваю снабжэнчую працу ЗРК павінны падпарадкаваць патрабаваньням соцыялістычнай вытворчасьці ў мэтах выкананьня вытворчых плянаў, падвышэньня вытворчасьці працы, за-

ахвочваньня (поощрение) соцспаборніцтва, ударніцтва і іншых форм социялістычнай організацыі працы і рашучай барацьбы з лятунамі, прагульшчыкамі і іншымі дэзорганізатарамі вытворчасьці.

Гэтыя вялізарнейшыя задачы, якія ўскладзены на ЗРК, ператвараюць іх у сапраўдны цэх забесьпячэньня. У адпаведнасьці з пастановай сьнежаньскага пленуму ЦК КП(б)Б організаваны ЗРК пры ўсіх фабрычназаводзкіх прадпрыемствах з колькасьцю рабочых звыш 2000 і пры некаторых іншых прадпрыемствах з меншай колькасьцю рабочых (якія знаходзяцца ў значнай адлегласьці ад абслугоўваючых іх ЗРК і пры некаторых групах аднародных прадпрыемстваў).

Зачыненыя рабочыя коопэратывы зьяўляюцца самастойнымі коопэрацыйнымі організацыямі з закончанай фінансавай гаспадаркай, працуюць на падставе свайго статуту і абслугоўваюцца непасрэдна Белкоопсаюзам.

Цесна ўвязваючы сваю працу з вытворчасьцю, ЗРК павінны правільна організаваць социялістычныя формы разьмеркаваньня, забясьпечыўшы пераважнае і першачарговае снабжэньне рабочых, асабліва ўдарнікаў, правадыроў социялістычнага спаборніцтва і рабочых цэхаў, якія ў тэрмін выконваюць і перавыконваюць вытворчыя пляны. ЗРК павінны організаваць сваіх членаў, на падставе самадзейнасьці, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, для складаньня сустрэчных плянаў і мобілізацыі сродкаў. У адпаведнасьці з правадзімай социялістычнай рэконструкцыяй усёй народнай гаспадаркі ЗРК павінен таксама праводзіць працу па социялістычнай перабудове быту організацыяй грамадзкага харчаваньня і іншых форм аграмаджаньня быту і іправядзеньня шэрагу культурна бытавых мерапрыемстваў (сталоўкі, буфэты, дзіцячыя сады, пральні, цырульні і г. д.).

Зьяўляючыся дзейным этапам зачыненых разьмеркавальнікаў, ЗРК павінны ў яшчэ большай меры рацыяналізаваць сваю працу, рашуча скасаваць чаргі, у максымальнай ступені прыстасоўваць папярэднюю развагу тавараў, сыстэму папярэдніх заказаў і безнаяўных разьлікаў. Барацьба са стратамі, растратамі і раскраданьнямі павінна быць узмоцнена, пры максымальным разгортваньні рабочага контролю. ЗРК павінны на справе давесьці, што рабочая коопэрацыя можа, у выкананьне дырэктыў партыі, у сапраўднасьці паставіць сваю работу ўзорна і паказальна ў поўнай адпаведнасьці з патрабаваньнямі социялістычнай вытворчасьці і з інтэрэсамі вытворчых рабочых.

Сваю снабжэнчую працу ЗРК праводзіць праз уласную сетку сталовак, буфэтаў і разьмеркавальнікаў, якія разьмяшчаюцца на тэрыторыі і ў раёне адпаведных прадпрыемстваў і па месцу пражываньня значных груп пайнікаў, нават і на адлегласьці ад прадпрыемства. Па асобнай дамоўленасьці з ЦРК апошні забясьпечвае з сваіх разьмеркавальнікаў асобных пайнікаў ЗРК хлебам, газай і некаторымі іншымі продуктамі.

ЗРК павінен таксама весьці працу па пашырэньню ўласнай харчовай базы організацыяй уласных гародаў, сьвінаадкормачных пунктаў і г. д., а таксама організацыяй і кіраваньнем мерапрыемствамі пайнікаў у гэтай галіне.

Рабочы контроль і коопэрацыйная грамадзкасьць павінны быць у яшчэ большай меры разгорнуты вакол дзейнасьці ЗРК. Асноўнымі формамі грамадзкага контролю зьяўляюцца цэхавыя сходы, шэфства, цэхавыя коопбюро, крамныя і сталовыя камісіі, рабочыя брыгады і рэвізійныя комісіі ЗРК.

Організацыя зачыненых рабочых коопэратываў павінна ўнесьці рэзкі пералом у працу па абслугоўваньню рабочага спажыўца на падставе выразна-клясавых прынцыпаў у поўнай адпаведнасьці з социялістычнай рэконструкцыяй краіны.

С. Нісэнбаум

# Больш увагі справе хлебапячэньня

Барацьбу за павялічэньне мучнога балянсу павінны пачаць хлебапечныя прадпрыемствы шляхам памяншэньня распылу мукі, памяншэньня браку хлеба і падвышэньня проценту прыпёку.

Ня гледзячы на цэлы рад пастаноў вытворчых нарад хлебапечных прадпрыемстваў гарадоў: Магілева, Барысава, Полацку, Віцебску, аб недапушчэньні лішняга распылу мукі, гэта пастанова застаецца толькі на паперы. Трэба раз назаўсёды паставіць, як правіла, стараннае выбіваньне мяхоў у мукасейных аддзяленьнях, што дасьць экономіі дзесяткі тысяч кілёграмаў мукі ў месяц.

Возьмем для прыкладу Магілеўскі хлебазавод, дзе я асабіста быў сьведкай, што мяхі не вывараčваюцца і не выбіваюцца; сумленныя-ж адносіны да справы далі-б экономіі 387 кгр. мукі ў месяц, з уліку прапускной здольнасьці заводу.

У Шклове мною была праверана астача мукі ў мяхох, у сярэднім гэта астача раўнялася 300-400 гр.

Калі мы возьмем для прыкладу Менскі хлебазавод, дык, выходзячы з ліку яго прапускной здольнасьці, стараннным выбіваньнем мяхоў можам павялічыць мучны балянс на 6000 кгр. у месяц. Мы наглядаем у некоторых гарадох Беларусі, што бракоўны і нават мала бракоўны хлеб і наогул кавалкі хлеба накіроўваюцца на адкормачныя пункты альбо адпускаюцца насельніцтву бяз нормы па паніжаных цэнах. Гэтаму нядбайству трэба пакласьці канец. Шляхам перапрацоўкі бракоўнага хлеба і кавалкаў у хлебапечных прадпрыемстваў, г. зн. размочваючы яго ў бочках, прапускаючы праз сіта і дадаючы да расчыну ў звычайнай пропорцыі, мы можам спыніць разбазарваньне пячонага хлеба.

У Віцебскіх хлебапякарнях бракоўны хлеб ідзе на паўторную пераапрацоўку, што не адбіваецца на якасьці хлеба, наадварот, закіс цеста паляпшаецца.

У апошні час наглядаецца вялікае зьніжэньне проценту прыпёку на пэрыфэрыі: так, у Шклове процант прыпёку ў студзені м-цы зьнізіўся ад 48-49 да 33 у Полацку—да 44-46, Магілеве—46. Нармальны прыпёк формаванага хлеба павінен быць ня ніжэй 50 проц.

Калі частка віны падае на саміх рабочых хлебапякарняў, то частка віны падае і на Саюзхлеб, бо грубы памол мукі дужа зьніжае процант прыпёку.

І вось пры сумленных адносінах да справы пекароў, у асаблівасьці майстроў, а таксама адміністрацыйнага пэрсоналу хлебапекарняў і заводаў, мы дасягнем вялікай экономіі мукі.

Вытворчыя нарады па хлебных прадпрыемствах павінны абгаварыць і зьнішчыць адзначаныя мною ненормальнасьці.

Арлоўскі

# Мобілізуемся на вырашэньне мяснай проблемы

*(Са спрэчак па дакладу тав. Сулькінай)*

У вырашэньні мясной проблемы ў гаспадарчым аддзеле БКСаюзу ёсьць шмат прарываў. Калі нашае праўленьне арганізавалася з дробных таварыстваў, праўда, мы атрымалі новых працаўнікоў, але ў БКСаюзе гаспадарчай арганізацыі ня было. Між іншым гаспадарчы аддзел БКСаюзу да 15 лютага не кіраваў гаспадаркамі адкормачных пунктаў. Толькі 15 лютага прыслалі плян для адкормачных пунктаў нашага раёну. Да 15 лютага новае праўленьне, якое арганізавалася з дробных таварystваў, ня ведала, што рабіць: ці адкармліваць, ці чакаць дырэктыў? Толькі нядаўна атрыманы пляны і заданьні.

Трэба будзе нашаму гаспадарчаму аддзелу лепш паварочвацца і сур'ёзна адносіцца да справы. Плян мы атрымалі, гэта добра, але ці быў плян увязаны з будаўніцтвам сьвінарнікаў, калі ў тым ці іншым раёне сьвінарнікаў ня было? Ні ў якай меры ня быў увязаны. Калі я быў у БКС у студзені м-цы, я не дабіўся ніякіх вынікаў. Былі вызначаны грошы на адкорм, а на будауніцтва—ніводнай капейкі. Праўда, у апошні час паведамілі, што на будаўніцтва адпушчаюць 5000 руб. Будаўніцтва і адкорм павінны быць шчыльна між сабой зьвязаны.

Як абстаіць справа з кармамі? Такое-ж становішча, як і ва ўсіх раёнах. Стаіць 20 галоў, кармоў няма, хадзі ды кланяйся Саюзхлебу. Добра, калі ёсьць аддзяленьне Саюзхлебу, а ў некаторых раёнах нават аддзяленьня няма, хто-ж там павінен карміць?

Калі мы гаворым аб адкорме, дык трэба мець які-небудзь плян забясьпячэньня прадуктамі. Ня ведаю, як мысьліць гаспадарчы аддзел у далейшым вытвараць адкорм без кармоў.

Спынюся на пытаньні папаўненьня стада ЦРК. Тут таксама ня было ніякай увязкі з будаўніцтвам. Белмяса па дагавору з БКСаюзам прыслала ня больш 50 % кароў, з якіх больш 50 % жывёлы было непрадукцыйнай. Прыслалі жывёлу, якая паела ўвесь корм, а пасьля трэба было яе выразаць. Трэба было адразу зарэзаць жывёлу, а ня трымаць яе.

З памяшканьнямі тяксама ня ўсё добра. ЦРК б'ецца як рыба аб лёд, але ня можа дабіцца дастатковай колькасьці памяшканьняў. Памяшканьняў няма, а стада прысылалі гуртамі па 100-150 кароў.

Адносіны рабочай сілы. Унас з вярбовкою гэтай сілы справа абстаіць дужа дрэнна.

Самы добры мэтод—прымацаваньне кожнага прадпрыемства да пасобнага саўгасу, каб сапраўды прадпрыемства дапамагала як рабочай сілай, так і сродкамі.

**„АГУЛЬНАЕ АЗДАРАЎЛЕНЬНЕ І УМАЦАВАНЬНЕ ФІНАНСАВАЙ ГАСПАДАРКІ СПАЖЫВЕЦКАЙ КООПЭРАЦЫІ ПАТРАБУЕ АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЯ ЖОРСТКАГА РЭЖЫМУ ЭКОНОМІІ“.**

(З рэзолюцыі аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б)

Шэйнін

# Мобілізацыю сродкаў—на першы плян

*(З дакладу на 2-й сэсіі Савету БКС)*

Мобілізацыя сродкаў насельніцтва, выкананьне фінпляну па лініі спажывецкай коопэрацыі мае вялікае значэньне ня толькі для коопэрацыі, але і для прамфінпляну нашае рэспублікі. Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б па гэтым пытаньні сказаў наступнае;

„Зьвярнуць асаблівую ўвагу на аздараўленьне і ўзмацненьне фінгаспадаркі сыстэмы, на рашучую барацьбу за ўзмацненьне фінансаваплянавай дысцыпліны і ажыцьцяўленьне жорсткага рэжыму ва ўсёй рабоце сыстэмы спажывецкай коопэрацыі. Катэгорычна забараніць усялякае выдаткаваньне і выняцьце сродкаў, не прадугледжаных зацьверджанымі плянамі сыстэмы і ня зьвязаных з работай спажывецкай коопэрацыі. Пленум ускладае асаблівую адказнасьць на ўсю сыстэму спажкоопэрацыі і прапануе значна ўзмацніць работу па мобілізацыі сродкаў“.

Ці правялі мы гэта ў жыцьцё? Трэба сказаць, што, на вялікі жаль, мы гэтага яшчэ не зрабілі, у гэтых адносінах мы ня маем зруху, мы плывем на хвалях, праўдзівей сказаць, цягнемся. Разгледзім лічбы выкананьня заданьня па Белкоопсаюзу ў асноўным квартале. Лічбы—рэч упартая. Па паявых узносах мы маем выкананьне на 89 проц. Студзень-люты дае значнае зьніжэньне процанту выкананьня. Па гарадзкому сэктару мы маем 151 проц., па сельскаму—81 проц. Адваротны малюнак атрымліваецца па збору сродкаў на будаўніцтва: па гарадзкому сэктару справа абстаіць зусім дрэнна, па сельскаму—крыху лепей, але ў агульным аднолькава дрэнна як па гарадскому, так і сельскаму сэктарох. Асобны квартал па гораду дае 95 проц., па сялу—93 проц.

Студзень па гораду дае 35 проц., па сялу—111 проц., люты— па гораду—16 проц., па сялу—71 проц. Зусім правільна, што недахоп прамтавараў ускладняе мабілізацыю сродкаў, але нельга сказаць, што мобілізацыя сродкаў немагчыма. Тыя раёны, якія правалілі гэтую работу ў процантных адносінах, атрымалі тавараў ня менш, чым раёны, якія выканалі свае пляны па мобілізацыі сродкаў.

Акрамя гэтага, у тых раёнах, дзе ня выкананы заданьні, таксама дрэнна абстаіць справа з нарыхтоўкамі. Возьмем Капаткевічы. Заданьне па мобілізацыі сродкаў гэты раён выканаў на 43 проц., нарыхтоўку хлеба—на 62 проц., нарыхтоўку лёну—на 7 проц. і г. д. Аб чым гэта сьведчыць? Гэта сьведчыць аб тым, што няма чаго спасылацца на „об'ектыўныя прычыны“, што мы сябе яшчэ недастатковa мобілізавалі, што мы не даацэньваем гэтае справы. Нашыя работнікі яшчэ ня ведаюць, што ў іхнім раёне робіцца па нарыхтоўках і мобілізацыі сродкаў. Ад іх цяжка дабіцца адказу на тое, як ідзе справа ў раёне, які процант выкананы сёньня і г. д.

За прыкладамі хадзіць далёка ня прыходзіцца. Мы маем шмат выпадкаў, калі ў Белкоопсаюз прыяжджае старшыня райСТ і патрабуе павялічэньня ліміту. У яго пытаюцца: наколькі павялічыць? Ён

адказвае: сама менш на 50 тысяч р. А скажэце, пытаюцца ў яго, які ў вас быў ліміт да гэтага часу? Адказ: ня помню. Мы пацікавіліся: а як у вас ідуць нарыхтоўкі? Адказ: я лічбаў з сабой не захапіў.

Тое-ж самае мы маем з мобілізацыяй сродкаў: няма лічбаў, з сабою не захапіў. Ніводзін старшыня яшчэ не прыяжджаў з конкрэтнымі лічбамі аб ходзе справы на раёне. Гэта паказвае на тое, што пытаньню лічбаў не падаецца належнай ўвагі ў той час, калі кожны старшыня павінен напамяць ведаць свае сродкі, бо бяз гэтага нельга наладзіць правільнай работы, правільнага кіраўніцтва. Асноўнаю хібаю ў пытаньні мобілізацыі сродкаў зьяўляецца тое, што гэтая справа вялася ў нас кампанейскім парадкам, ня ўвязвалася са штодзённай работай. Адсюль вынікала бясспрэчна надзея на самацёк.

Пытаньне аб лічбах мае вялікае значэньне для нашага плянаваньня, бяз лічбаў нельга правільна паставіць работу мобілізацыі сродкаў. Гэта трэба ведаць кожнаму райСТ.

Якія-ж вывады можна зрабіць на сёньня? Трэба сказаць, што па мобілізацыі сродкаў на сёньняшні дзень пастанова пленуму яшчэ ня выканана, што ў асноўным работа па мобілізацыі сродкаў ня была сталай, штодзённай, а праводзілася кампанейскім шляхам, што давала надзею на самацёк.

У далейшым неабходна будзе ўстанавіць жорсткую экономію расходаў, трэба раз назаўсёды спыніць расходы на розныя патрэбы, якія не прадугледжаны плянам і не зацьверджаны БКС. Неабходна правесьці ў жыцьцё соцспаборніцтва паміж асобнымі ЦРК і райСТ, наладзіць правільны вучот сваёй работы, каб заўсёды мець перад сабою малюнак, што зроблена і што яшчэ трэба зрабіць. Трэба раз назаўсёды пакончыць з нядбайнасьцю і маруднасьцю ў гэтай важнейшай адказьнейшай рабоце. Трэба мобілізаваць усе свае сілы на выкананьне задач, пастаўленых партыяй і савецкай уладай перад спажывецкай коопэрацыяй.

# На сустрэчу 2-й бальшавіцкай

Сулькіна

## Становішча прыгарадных гаспадарак і падрыхтоўка іх да вясеньняй пасеўнай кампаніі

Адна з асноўных задач, якую партыя паставіла перад спажыўкоопэрацыяй, гэта задача максымальнага разгортваньня вытворчай дзейнасьці спажыўкоопэрацыі, разгортваньня прыгарадных гаспадарак у мэтах пашырэньня продуктовай базы рэспублікі і паляпшэньня рабочага забесьпячэньня. Цэнтральны комітэт і Саўнарком БССР паставілі перад спажыўкоопэрацыяй БССР конкрэтны плян разгортваньня прыгарадных гаспадарак. Я спынюся на тых асноўных заданьнях, якія спажыўкоопэрацыя БССР у гэтым годзе павінна правесьці ў жыцьцё. Спажыўкоопэрацыя БССР павінна засеяць 25 тыс. га плошчы



Пабудова для захаваньня гароднiны.

Дзеля таго, каб у нас ня было такога крытычнага становішча, якое мы маем зараз з кармамі, мы павінны прыгарадныя гаспадаркі падвесьці пад цьвёрдую кармавую базу, а для гэтага трэба засеяць ня менш 10 тыс. га кармавых культур. Мы павінны ў гэтым годзе закласьці 50 тыс. парніковых рам. Акрамя таго, у галіне жывёлаводз-

тва мы павінны давесьці наша малочнае стада па прыгарадных гаспадарках да 12 тыс. галоў і адкарміць за гэты год 60 тыс. сьвіней. Вы бачыце, таварышы, якія вялізарныя задачы стаяць перад спажкоопэрацыяй у гэтым годзе ў галіне разгортваньня сваёй продуктовай базы. Гэтым самым мы павінны палепшыць рабочае забесьпячэньне БССР. Трэба сказаць, што гэтыя заданьні мы павінны будзем выканаць ня толькі колькасна, але і галоўную ўвагу павінны сконцэнтраваць на якасных паказальніках гэтых заданьняў. Колькасныя заданьні мінулага году непараўнальны з тымі заданьнямі, якія мы маем на гэты год. У мінулым годзе па ўсёй спажкоопэрацыі засеяна было 1047 га гароднай плошчы, заданьне па малочнаму стаду было дано на 4500 кароў. Адкорм сьвіней мы павінны былі правесьці ў колькасьці 7 тыс. Такім чынам, вы бачыце, што тое заданьне, якое мы маем на будучы год, прадстаўляе сабою велічыню непараўнаную. Трэба нам усім ведаць, што ў залежнасьці ад таго, як мы справімся з гэтымі задачамі, залежыць становішча рабочага забесьпячэньня. Што-ж мы павінны атрымаць у галіне нашай продукцыі на гэты год?

Па асобных гародных культурах мы павінны будзем ад уласных гаспадарак атрымаць 11.414 тон капусты, тым часам як рабочае забесьпячэньне адчувае патрэбу ў 22.630 тонах. Агульная патрэба будзе здаволена на 60 проц. Буракоў будзе атрымана 5900 тон ад уласных гаспадарак, агульная патрэба— 7000 тон. Такім чынам, сваімі гаспадаркамі мы павінны будзем задаволіць рабочае забесьпячэньне на 83 проц. Па малочных прадуктах мы павінны будзем атрымаць 16985 т., агульная патрэба—37108 т. Такім чынам па малочных продуктах мы павінны з сваіх уласных гаспадарак забясьпечыць патрэбу на 45 проц. Гэтыя асноўныя лічбы, якія я тут прывяла, ужо сёньня красамоўна сьведчаць аб тых важнейшых задачах, якія стаяць перад намі ў галіне разгортваньня прыгарадных гаспадарак, у справе таго, каб нашы прыгарадныя гаспадаркі ня толькі колькасна, але і якасна справіліся са сваімі задачамі.

### Сьвінагадоўля

Трэба сказаць, што гэтая справа пастаўлена вельмі дрэнна. У асобным квартале, згодна заданьня СНК, мы павінны былі адкарміць 18.000 сьвіней. З гэтай справай мы ня справіліся, і плян адкорму быў выкананы толькі на 50 проц. Трэба падкрэсьліць, што тое становішча, якое мы маем на сёньняшні дзень, гаворыць аб тым, што і ў першым квартале 1931 г. няма значнага пералому ў выкананьні гэтага заданьня.

Мы павінны былі ў першым квартале адкарміць 14514 сьвіней. На сёньняшні дзень, праўда, прайшло два месяцы першага кварталу, і гэтыя заданьні знаходзяцца пад пагрозай зрыву таму, што на сёньняшні дзень ва ўсіх ЦРК замест 14.000 сьвіней ёсьць на адкорме ўсяго 4200 сьвіней.

Трэба падкрэсьліць, што ніводзін ЦРК ня выконвае заданьня. Менскі ЦРК, замест 2300 сьвіней, мае на адкорме 1081 сьвіньню, альбо 47 проц. пляну. Віцебскі ЦРК, замест 2100 сьвіней, мае на адкорме 519 сьвіней, альбо 24 проц. пляну, Гомельскі ЦРК замест 2300 сьвіней мае на адкорме 441 сьвіньню, альбо 19 проц. пляну, Магілеўскі ЦРК выконвае плян на 15 проц., Бабруйскі—на 48 проц., Аршанскі—на 65 проц., Рэчыцкі—на 9 проц., Шклоўскі—на 10 проц. і Барысаўскі—на 14 проц.

Такім чынам, таварышы, па ўсіх ЦРК у першым квартале г. г. плян адкорму сьвіней стаіць пад пагрозай зрыву.

Што мы маем у раённых спажывецкіх таварыствах? У РСТ павінна быць у гэтым квартале адкор-

млена 7000 сьвіней. Становішча такое, што некаторыя РСТ выконваюць плян, некаторыя нават перавыканалі, напрыклад, Копыльскае спажывецкае т-ва выканала плян на 152 проц., Асьвейскае—на 111%, Касьцюковіцкае—на 162 проц. і г. д. Побач з гэтым мы маем некаторую колькасьць спажывецкіх т-ваў, якія зрываюць плян адкорму сьвіней, напрыклад: Лепельскае спажывецкае т-ва, Лельчыцкае, Жлобінскае. У некаторых спажывецкіх т-вах, як Веткаўскае, знаходзяцца на адкорме толькі 2 сьвіньні.



У чым-жа справа? Асноўная прычына зрыву адкорму заключаецца ў тым, што да гэтага часу наша сыстэма не даацэньвае пытаньня адкорму ў справе рабочага забесьпячэньня. Інакш нельга кваліфікаваць такое становішча.

На сёньняшні дзень кожны ЦРК, кожнае спажывецкае т-ва мае пэўны плян адкорму, пэўнае заданьне, колькі павінна быць на адкорме, колькі адкорм павінен даць мяса, сала і г. д., але ЦРК замест 14.000 паставілі на адкорм 4000 сьвіней. Такі самы малюнак наглядаецца і па райСТ.

У чым справа? Справа ў тым, што нашыя сьвінаадкормачныя пункты да гэтага часу ня сталі сапраўды сьвінаадкормачнымі пунктамі, яны зьяўляюцца парасятнікамі, а ў лепшым выпадку—матачнікамі. Ёсьць значная колькасьць матак, але да гэтага часу яшчэ не заняліся пытаньнем адкорму сьвіней.

### Малочная гаспадарка

Агульная колькасьць стада, якое мы маем у сучасны момант,—звыш 6000 галоў. Мы павінны давесьці наша стада да 12000 галоў. Такім чынам, з пункту погляду колькаснага, у гэтых адносінах у нас як быццам справа абстаіць ня дрэнна, але якасныя паказальнікі нашых малочных фэрмаў нікуды ня вартыя.

Мы маем такое становішча, што ў нашых гаспадарках ёсьць значная колькасьць зусім непродукцыйнай жывёлы; па гэтым пытаньні мы ня раз давалі дырэктывы аб выбракоўцы непродукцыйнай жывёлы. Зараз такая магчымасьць у нас ёсьць, але трэба сказаць, што ЦРК вельмі марудна ідуць на тое, каб праводзіць выбракоўку і замяняць нягодную жывёлу больш продукцыйнай.

У сувязі з тым, што ў нас у значнай меры стада непродукцыйнае, дагляд за жывёлай не такі, які патрэбен, значнае месца ў сучасны момант займае пытаньне кармоў. У нас вельмі цяжкое становішча з кармамі. Усё гэта разам узятае прыводзіць да таго, што становішча эфэктыўнасьці нашых малочных фэрм зусім дрэннае. Значная колькасьць малака адходзіць на самазабесьпячэньне, значную частку адбіраюць цяляты і г. д., а для рабочага забесьпячэньня мы атрымліваем зусім недастатковую колькасьць, зусім ня тое, што трэба было атрымаць з нашых прыгарадных гаспадарак. На ўсіх гэтых момантах нам прыдзецца заастрыць увагу з тым, каб гэта зьнішчыць.

## Падрыхтоўка да веснавой кампаніі

Асноўнаю базай для разгортваньня гэтай работы зьяўляецца зямля. Як-жа абстаіць справа з зямлёй? Трэба сказаць, што на сёньняшні дзень справа з адводам зямель абстаіць больш-менш добра. Заданьне поўнасьцю выканана, і нават ёсьць перавышэньне. Калі ўзяць склад зямлі, то можна сказаць, што ён досыць добры. З усёй колькасьці 25.000 га мы атрымалі ворнай зямлі 18.000 га і сенажаці 5700 га. намі заданьняў. Тая плошча, якую мы атрымалі, у значнай меры зьяўляецца такой зямлёй, якая не засявалася гароднымі культурамі. Такім чынам, для таго, каб атрымаць сапраўдны эфэкт, максымальны ўраджай ад кожнага гэктару, нам трэба своечасова ўгнаіць гэтую зямлю. Для гэтага былі своечасова дадзены ўсім нашым організацыям цьвёрдыя пляны аб тым, колькі кожны ЦРК, выходзячы з яго плошчы, павінен вывезьці ўгнаеньня, попелу, мінэральнага



Такім чынам, мы бачым, што склад зямельных угодзьдзяў дае нам магчымасьць ужо зараз разгарнуць падрыхтоўку да веснавой пасеўкампаніі. Як у колькасных, так і якасных адносінах зямлёй па большасьці ЦРК мы задаволены. Па нашых намётках па 40 РСТ мы павінны былі атрымаць 17000 га, а атрымалі, прыкладна, 9000. Разьбіўка пасеўплошчы, якую мы мяркуем па нашым пляне веснавой пасеўкампаніі, наступная:

З усёй пасеўнай плошчы зерневых культур у нас будзе засеяна 12 проц., траў—27, сілосных культур—6 проц., бульбы—10 проц. і гародніны—35 проц. Вось тая плянавая намётка, якая намі зроблена для правядзеньня стаячых перад ўгнаеньня. Якое-ж становішча мы маем на сёньняшні дзень па выкананьні гэтага заданьня? Падрыхтоўка да веснавой пасеўнай кампаніі ў нас ідзе нездавальняюча. Мы павінны былі вывезьці да веснавой пасеўкампаніі на нашу плошчу 269000 тон угнаеньня. Становішча, якое мы маем на сёньняшні дзень, гаворыць аб вельмі марудным выкананьні гэтага заданьня. Па БКС на сёньняшні дзень замест 269 тыс., тон угнаеньня мы вывезьлі ўсяго 109 тыс. тон., гэта значыць, мы вывезьлі 43 проц. таго, што павінны былі вывезьці. Трэба сказаць, што ў гэтай галіне амаль усе ЦРК адстаюць. Такое становішча недапушчальна. ЦРК не дааценілі своечасовай падрыхтоўкі да веснавой

сяўбы, сваячасовага ўгнаеньня тых плошчаў, якія мы маем.

Мы павінны прывезьці мінэральнае ўгнаеньне для нашых гаспадарак часткова з-за межаў БССР і атрымаць каля 350 вагонаў мінэральных угнаеньняў, але паступленьне да гэтага часу ідзе вельмі марудна.

Як у нас абстаіць справа з забесьпячэньнем сельскагаспадарчым інвэнтаром? Трэба сказаць, што ёсьць значная колькасьць сельскагаспадарчага інвэнтару для гаспадарак па тых разнарадках, якія нам дадзены, але дрэнна абстаіць справа з забесьпячэньнем найбольш складаным сельскагаспадарчым інвэнтаром. Такога інвэнтару, як бульбасажалкі, як тукавыя сеялкі, розныя трактарныя часткі, у Белсельснабе няма. Мы зварочваліся ў Цэнтрасаюз, але пытаньне да гэтага часу яшчэ ня вырашана. Ёсьць пагроза, што гэтымі складанымі сельскагаспадарчымі машынамі мы поўнасьцю ня зможам забясьпечыць гаспадаркі.

**Забесьпячэньне рабочай сілай**

Паводле падлікаў, якія ёсьць, нам патрэбна прыблізна 7000 сэзонных рабочых і 4400 сталых рабочых.

Што мы маем на сёньняшні дзень у нашых гаспадарках? Сталых рабочых замест 4400 чалавек у гаспадарках ёсьць 3083, сэзонных рабочых мы амаль зусім ня маем. Паводле вестак, прыблізна каля 1000 рабочых законтрактавана на сэзонныя работы.

Што намі зроблена для забесьпячэньня нашых гаспадарак рабочай сілай? Па дагаворанасьці з НКПрацы да нашых прыгарадных гаспадарак прымацавана 30 раёнаў, кожны ЦРК мае сталы прымацаваны раён, адкуль ён павінен вербаваць рабочую сілу. Але трэба сказаць, што да гэтага часу нашы арганізацыі яшчэ не разгарнулі работы па вярбоўцы гэтай рабочай сілы.

Калі, напрыклад, у мяне нядаўна быў прадстаўнік з Магілеву, і калі я запыталася, як ідзе контрактацыя ў прымацаваным раёне, ці досыць там рабочых (а мы дагаварыліся з НКПрацы, што калі ў гэтых раёнах ня будзе дастатковай колькасьці рабочых, да нас будуць прымацаваны другія раёны), загадчык сэктару, ня гледзячы на тое, што 5 лютага паслана паперка, яшчэ ня ведае, якія раёны прымацаваны, і дзе ён будзе вербаваць рабочую сілу. Такія адносіны да вярбоўкі рабочай сілы складаюць пагрозу незабесьпячэньня гаспадаркі рабочай сілай.

Нашыя гаспадаркі зусім не мэханізаваны, а засеяць гароднінай, працаёмкімі культурамі гэта значыць забясьпечыць гаспадаркі вялікай колькасьцю рабочай сілы для таго, каб справіцца з задачамі, таму што незабесьпячэньне рабочай сілай азначае зрыў выкананьня заданьня.

Акрамя гэтай найманай рабочай сілы, бязумоўна, прыгарадныя гаспадаркі павінны орыентавацца таксама на прыцягненьне рабочай сілы на грамадзкіх пачатках. Вы ведаеце дырэктыву, якая гаворыць аб тым, што нашы прыгарадныя гаспадаркі не павінны быць абязьлічаны. Кожная гаспадарка павінна абавязкова быць прымацавана да фабрыкі альбо заводу для таго, каб рабочы ведаў, што ён на гэтым вучастку мае права на першачарговае забесьпячэньне продуктамі, і тым самым быў зацікаўлены ў аказаньні дапамогі прыгарадным гаспадаркам як у штодзённым рабочым контролі, так і ў матэрыяльнай дапамозе і ў сапраўднай дапамозе рабоце.

На сёньняшні дзень мы маем такое становішча, што прымацаваньне гаспадарак да фабрык і заводаў яшчэ не разгорнута. Там, дзе гаспадаркі прымацаваны, я падкрэсьліваю, яны прымацаваны формальна.

Неабходна ў бліжэйшы час разгарнуць работу па прымацаваньню, распрацоўцы конкрэтнага пляну, скарыстаньню рабочай сілы, якая будзе працаваць на нашых гаспадарках

### Закладка парнікоў

Я ўжо казала, што па заданьні мы павінны закласьці 50000 парніковых рам для рассады раньняй гародніны. Якое становішча мы маем на сёньняшні дзень? Вырыта катлавін па ўсіх ЦРК 19320, скрынак падрыхтавана для парніковых рам 9800, гатовых рам мы маем 48500, зашкляна з гэтых рам усяго 20000. Мат падрыхтавана 18000. Трэба сказаць, што ў радзе ЦРК забесьпячэньня. Загатоўка асобных культур выражаецца ў наступных лічбах: бульбы—10%, агуркоў—20%, памідораў—40%, буракоў—34%, морквы—10%, цыбулі—60%, гароху—30%, бобу—6%, радыскі—28%, рэдзькі—33%, фасолі—10%.

Гэта тая колькасьць, якая ёсьць непасрэдна ў нашых гаспадарках ЦРК. Акрамя гэтага, мы ўжо маем такое абяцаньне з боку насентрэсту і Наркомзему, што нашы гаспа-



Парнікі.

мы маем такое становішча, што выкананьне гэтага заданьня знаходзіцца пад пагрозай зрыву.

Гэтую працу трэба скончыць да 15 сакавіка, і калі ў апошнія дні ня будзе зроблены значны пералом, дык гэта важнейшае заданьне па закладцы рам будзе ня выканана.

### Заготоўка насеньня

Некалькі слоў аб забесьпячэньні прыгарадных гаспадарак насеньнем. Гэта зьяўляецца адным з асноўных элемэнтаў, без якога мы ня можам мець посьпехаў у справе рабочага даркі будудь забясьпечаны такім насеньнем, як капуста, гарох, морква ды інш., на 100%. Гуркамі мы павінны забясьпечыць з уласных загатовак. Я лічу, што пакуль гэтага насеньня мы ня маем на нашых складах, мы павінны сконцэнтраваць усю ўвагу на самастойных загатоўках. Гэта нам неабходна ў значнай меры разгарнуць з тым, каб быць поўнасьцю ўпэўненымі, што мы выканаем тыя плянавыя заданьні, якія мы маем па загатоўцы насеньня.

Увогуле трэба сказаць, што ў рабоце па разгортваньні прыгарад-

ных гаспадарак, а таксама і па падрыхтоўцы да веснавой пасеўнай кампаніі мы маем цэлы рад вузкіх месц, цэлы рад цяжкасьцяй. Але гэтая адказьнейшая задача, якая пастаўлена перад намі партыяй і савецкай уладай, павінна быць намі поўнасьцю выканана. Нам трэба не раўняцца па вузкіх месцах, якія мы маем, а мобілізаваць усю ўвагу ўсей сыстэмы на перамаганьне тых цяжкасьцяй і вузкіх месц с тым, каб поўнасьцю выканаць тое адказьнейшае заданьне, якое дано партыяй па разгортваньні прыгарадных гаспадарак, і тым самым па палепшаньні рабочага забесьпячэньня БССР.

С. Д.

# Спажкоопэрацыя на абслугоўваньне другой бальшавіцкай

Задачы пасьпяховага правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі, задачы шырокага разгортваньня колектывізацыі сельскай гаспадаркі патрабуюць ад кожнай організацыі сапраўды бальшавіцкіх тэмпаў работы. Спажывецкая коопэрацыя, на якую партыяй ускладзены адказьнейшыя задачы абслугоўваньня веснавой пасеўнай кампаніі, забесьпячэньня саўгасаў і колгасаў неабходнымі таварамі і продуктамі, павінна выканаць сваю задачу з посьпехам. Як-жа спажывецкая коопэрацыя падрыхтавалася да абслугоўваньня бальшавіцкай вясны? Па зьвестках Белкоопсаюзу на 15-III—31 года мы маем наступнае:

У галіне грамадзкага харчаваньня саўгасаў і колгасаў у часе пасеўнай кампаніі вызначана 31 тона пшанічнай мукі, 55 тон мяса, 110 т. круп, 210 тон рыбы, 21 тона расьліннага масла. Апрача гэтага, для палепшаньня грамадзкага харчаваньня саўгасаў і колгасаў Наркомснабам будзе зацьверджан асобны фонд на пэўную колькасьць продуктаў, якія таксама пойдуць на абслугоўваньне пасеўнай кампаніі. У галіне дробных мэталягаспадарчых рэчаў Белкоопсаюз атрымаў ад Цэнтрасаюзу:

| | |
|---|---|
| Грабель | 5 тысяч |
| Віл для гною | 18 „ |
| Рыдлёвак | 15 тон. |
| Сякер | 10 тыс. шт. |
| Вёдраў | 30 „ „ |
| Катлоў чыгун. | 5 тон |
| Чайнікаў | 7 тыс. шт. |
| Посуду на | 79 тыс. руб. |

Вядома, што гэтыя лічбы складаюць вельмі малы процант нашае патрэбы. Вялікаю перашкодаю ў гэтых адносінах зьяўляецца тое, што паміж Белдзяржснабам і Белкоопсаюзам няма ніякае ўвязкі: Белдзяржснаб вельмі мала лічыцца з заяўкамі Белкоопсаюзу на той ці іншы тавар, што ў значнай меры зрывае работу коопэрацыі па абслугоўваньню пасеўкампаніі. Другое, ня менш важнае, пытаньне, якое паўстае перад спажкоопэрацыяй,—гэта забесьпячэньне трактараў газаю і змазачнымі матар'яламі.

Спажывецкая коопэрацыя павінна поўнасьцю забясьпечыць трактарныя організацыі гэтымі матар'яламі. У гэтых адносінах ня можа быць об'ектыўных прычын. Патрэба трактараў на красавік месяц вызначаецца ў 1592,5 тон. Зроблена занарадка коопэрацыяй на 1692 тоны. Пытаньне заключаецца толькі ў баках, як нашыя спажтаварыствы забясьпечаны імі, якая ёмістасьць іх і г. д. Што-ж датычыцца змазачных матар'ялаў, дык Белкоопсаюзам зроблена прымацаваньне райСТ да бакаў Саюзнафты.

З гэтаю мэтаю даны інструкцыі ўсім райСТ, якія трактарныя організацыі яны павінны абслугоўваць, якая патрэба гэтых організацый і г. д.

Паводле тых меркаваньняў, якія ёсьць, трактары БССР будуць забясьпечаны змазачнымі матар'ямі.

У галіне забесьпячэньня прамтаварамі Белкоопсаюзам вылучаны спэцыяльныя фонды для прыгарадных гаспадарак, занараджана 1150 пар ботаў і чаравікаў.

Для рабочых МТС занараджан асобны фонд гатовага адзеньня:

| | |
|---|---|
| Гарнітураў | 3500 шт. |
| Паліто | 2500 „ |

Для рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў вылучан таксама фонд гатовага адзеньня на 20 тыс. руб.

Для рабочых прыгарадных гаспадарак (праз Швейаб'яднаньне, Гомельскую базу) вылучана:

| | |
|---|---|
| Паліто | 1000 шт. |
| Целагрэек і нагавіц | 300 компл. |

Для прэм'яваньня ўдарнікаў прыгарадных гаспадарак, саўгасаў, колгасаў і МТС вылучан фонд у 210 т. рублёў.

У галіне арганізацыі грамадзкага харчаваньня Белкоопсаюзам асыгнавана для саўгасаў і сельскіх гаспадарак райСТ 151.700 руб. і для колгасаў—110.800 руб. Па пляну мяркуецца ў саўгасах арганізаваць 66 стацыянарных сталовак, кухняачагоў—63, у прыгарадных гаспадарках—31 станцыянарную сталоўку і 18 пунктаў палявога харчаваньня. У калгасах вызначана арганізаваць 500 стацыянарных сталовак і 1000 пунктаў палявога харчаваньня.

Зусім дрэнная становішча мы маем з інвэнтаром для гэтых сталовак і памяшканьнямі.

У бліжэйшыя часы як нізавым арганізацыям, так і Белкоопсаюзу трэба зьвярнуць на гэтую справу асаблівую ўвагу, бо пры такім становішчы і надалей плян арганізацыі грамадзкага харчаваньня можа сарвацца.

У галіне культурнага абслугоўваньня саўгасы і колгасы будуць забясьпечаны адпаведнай літаратурай.

Па кіно-радыё абслугоўваньню вызначана ўстанавіць 12 кіно-стацыянарак, у больш буйных колгасах і саўгасах, пусьціць 100 кіноперасовак, устанавіць 150 гучнагаварыцеляў і г. д.

Тое вялікае значэньне, якое набывае другая бальшавіцкая вясна, патрабуе ад усёй коопэрацыі баявых тэмпаў, сапраўднага ўдзелу ў выкананьні тых задач, якія ўсклалі на яе партыя і савецкая ўлада. Недастаткова толькі разьмяркоўваць продукты.

Спажывецкая коопэрацыя сваёй масавай практычнай работай павінна ў значнай ступені дапамагаць разгортваньню колектывізацыі сельскай гаспадаркі, коопэрацыя павінна па-бальшавіцку змагацца за прыліў у колгасы, за соцыялістычныя формы апрацоўкі зямлі. У бліжэйшыя часы павінны шырока разгарнуць сваю работу групы садзейнічаньня колектывізацыі. Трэба кожнаму коопэратару помніць словы Леніна, што „коопэрацыя зьяўляецца сталбавою дарогаю да соцыялізму“.

Значнасьць і вялікі зьмест гэтага лёзунгу, асабліва цяпер, ускладае яшчэ большую адказнасьць на работу спажкоопэрацыі. Да гэтага часу па нашай сыстэме яшчэ ня ўсе райСТ наладзілі як мае быць сваю работу. Тыя тэмпы, якія мы маем у некаторых ЦРК па падрыхтоўцы да 2-й бальшавіцкай вясны, зьяўляюцца нездавальняючымі. З выкананьнем гэтай адказьнейшай задачы нельга марудзіць ніводнага дню.

Коопэрацыя павінна сапраўды па-бальшавіцку сустрэць веснавую сяўбу.

**„ПОЎНАСЬЦЮ АЖЫЦЬЦЁВІЦЬ ПЛЯН РАЗГОРТВАНЬНЯ ПРЫГАРАДНЫХ ГАСПАДАРАК СПАЖЫВЕЦКАЙ КООПЭРАЦЫІ“**

**(З рэзолюцыі пленуму ЦК КП(б)Б)**

# Коопэрацыйная трыбуна



У паход за культуру. Распаўсюджваньне коопэрацыйнай літаратуры.

**Нялюбы Алесь**

## Гора Буцяніха

(*м. Круглае*)

У м. Круглым па Цяцерынскай вуліцы знаходзіцца адна з крам спажывецкага т-ва. Прыказчыцай гэтай крамы зьяўляецца нехта Буцяніха, якая ня толькі не клапоціцца аб разгортваньні выхаваўчай працы паміж пайнікамі, але праводзіць самую шкодную, самую варожую антысавецкую політыку у коопэрацыйнай галіне.

За прыкладамі хадзіць далёка ня трэба. Іх вельмі многа. Буцянісе заўсёды спадарожнічае яе кашолка, у якой яна невядома што носіць, але злыя языкі гавораць, што носіць яна дэфіцытныя тавары. З гэтай славутай кашолкай, без якой ніводзін круглянец ня бачыў Буцяніхі, яна, ідучы з крамы і ў краму, часьценька наведвае сваіх розных знаёмых.

Гэтая-ж кашолка дапамагае Буцянісе адчыняць гандаль табакай і іншымі таварамі ў сябе ў двары, але не ў карысьць спажывецкага т-ва, а ў сваю ўласную, бо тут адбываецца гандаль паменнага характару.

Здараліся выпадкі, што нават і ў самай краме Буцяніха абменьвала табаку на масла і яйкі, як гэта было, напрыклад, з грам. в. Ліхінічы Канцавым Петраком,

З кашолкай Буцяніха часьцей за ўсё наведвае больш-менш грашавітых людзей.

Апрача ўсяго іншага, Буцяніха мае шчыльную сувязь нават і з пазбаўленымі выбарчых правоў, з былымі нэпманамі, якім яна прадае самыя дэфіцытныя тавары, а пайнікаў-беднякоў пакідае так.

Гэтыя пазбаўленыя правоў—Лозьнер Мэндэль і Блінчык Хаім, у мінулым буйныя гандляры. Ім Буцяніха прадае табаку, цукар, газу ды інш. дэфіцытныя тавары. Аднаму з іх яна аднойчы нават у прысутнасці староньніх асоб прадала 3 кілё селядцоў.

Як-жа стаіць у Буцяніхі справа з мобілізацыяй сродкаў, з прасоўваньнем астатніх недэфіцытных тавараў? Вельмі слаба. Пайнікі нездаволены яе працаю.

Дзякуючы такой сыстэме распаўсюджаньня тавараў сярод працоўнага насельніцтва мала хто зьвяртае ўвагу на гэтую краму, і таму ў Буцяніхі зараз знаходзяцца залежы цукру ў 400 пудоў. Хто-ж скажа аўтарытэтнае слова наконт Буцяніхі?

І чаго толькі глядзіць праўленьне Круглянскага спажывецкага т-ва? Ці ў яго таксама вочы павыскаквалі на лоб?

К. Л. Н.

## Кулацкія падпявалы

(*Капыльскі раён, вёска Ванелевічы*)

Шмат пішуць аб клясавым разьмеркаваньні прамтавараў, але ня ўсе ўцямілі важнасьць гэтага мерапрыемства. Загадчык Ванелеўскай крамы т. Асмольскі ў разьмеркаваньні прамтавараў зьяўляецца кулацкім падпявалай. У першую чаргу атрымліваюць тавары заможнікі, акія могуць зрабіць „банкет“ т. Асмольскаму.

Прывядзем факт: заможнік Лазюк справіў Асмольскаму „банкет“ з гарэлкай, каб апошні даў яму мануфактуры. Крамкамісія спрыяе гэтаму і нават сама ня супроць таго, каб „выпіць“ і за гэта адпусьціць што-кольвек з тавараў заможніку (П‘юць у Лебядзевіча Са... с і інш.). Ясна, што аб правільнасьці ў разьмеркаваньні пры такіх умовах казаць нельга. Тут, як кажуць, „рука руку грэе“.

Трэба, каб ячэйка і сельсавет зьвярнулі на гэта сур‘ёзную ўвагу і праводзілі правільную клясавую лінію ў разьмеркаваньні прамтавараў сярод беднаты, калгасьнікаў і сераднякоў.

А. С.

## Культурна-выхаваўчаяработа адсутнічае

Культурна-выхаваўчая работая сярод пайнікаў Ількаўскага аддзяленьня Бялыніцкага спажывецкага таварыства зусім адсутнічае. Ніхто гэтай працай ня цікавіцца і ня хоча цікавіцца. Сходы пайнікаў на культурна-выхаваўчую тэму ні разу не праводзіліся. Коопэрацыйнага кутка ніхто і ў вочы ня бачыў, бо яго ніхто ні разу не організоўваў. З кнігараспаўсюджваньнем справа абстаіць дрэнна: у Ількаўскім аддзяленьні ніколі кніжак ня было і ў успамінку. А ў сучасны момант, пры разгорнутым соцбудаўніцтве, пры культурным пераароце, які адбываецца і павінен адбывацца сярод працоўных мас, задурманеных да рэволюцыі царскім урадам, культурна-выхаваўчая работа, як і кнігараспаўсюджваньне, павінны стаяць на першым месцы. Бялыніцкаму спаж. т-ву гэтыя недахопы трэба тэрмінова ўлічыць.

„Коопэратар“

## Шкоднікаў вон з коопэрацыі

(*Заслаўскі раён, Рагаўскі сельсавет, в. Рагавая*)

Рагаўская коопэрацыя жыве, як кажуць, на водшыбе, ніякія пытаньні і задачы, пастаўленыя перад коопэрацыяй, наогул яе не хвалююць. За ўвесь 1930 год ня было праведзена ніводнага сходу пайнікаў, ніякае растлумачальнае і выхаваўчае работы. Можа гэта таму, што загадчыкам у гэтай краме працуе глыбока паважаны А. Драздовіч, але ва ўсякім разе работа вядзецца недапушчальна дрэнна.

Наглядаюцца факты грубых адносін да пайнікаў, пушчаюцца ў ход брыдкія словы, ёсьць „любимчики“, якім усё адпускаецца без чаргі, асабліва дэфіцытныя тавары і г. д.

Апрача гэтага, ў таварыстве працуюць чужыя нам і „былыя“ людзі, як Станеўскі, якога ў 1920 годзе чырвоныя хацелі расстраляць, і г. д.

Нарэшце ўся гэтая гопкампанія зрабіла растрату тавараў на паўтары тысячы рублёў.

На нашу думку, трэба такіх коопэратараў, якія ня цікавяцца справай копэрацыі і якія толькі шкодзяць ёй, пачысьціць.

Рабкор „130“

## Самаўпэўнены Ілжэўдарнік

(*Капыльскі раён*)

У вёсцы Бабоўня ёсьць коопэратыў, дзе працуе крамнік Ш. Розэнблюм. Ва ўсіх сьпісах ён лічыцца ўдарнікам і, як відаць, спадзяецца на прэмію, але па сваёй рабоце Розэнблюм зьяўляецца ня чым іншым, як самаўпэўненым ілжэўдарнікам. Коопэратыў ён адчыняе калі захоча, тавары дае каму захоча, а калі хто ўздумае запротэставаць, у гэтага Розэнблюма ёсьць лаянка вышэй за амэрыканскія небаскробы. Контролю над сабой ёй ня любіць.

Ёсьць чуткі, што т. Розэнблюм забясьпечвае сваякоў прамтаварамі і г. д.

Ва ўсякім разе т. Розэнблюму трэба зьнішчыць недахопы свае працы, каб апраўдаць імя ўдарніка.

Селькор

## Дрэнны загатоўца

(*Чачэрскі раён*)

Клічуць яго Чарняўскі. Накіравала яго Чачэрскае праўленьне на гэтую адказную работу, спадзяючыся, што ён справіцца з ёю і даб'ецца належных вынікаў. Узяўшы портфэль, тав. Чарняўскі прыехаў у Раўкаўскі сельсавет. Дні тры папрацаваў і махнуў рукою. Ня чуваць абозаў, ня едуць яны самі, не здагадваюцца, што прыехаў загатоўца.

А тут такая лірыка, такія прыгожыя бары... такія раніцы...

І вось т. Чарняўскі ня вытрымаў, перамагла прырода. Ледзьве праб'ецца раніца, як загатоўца за стрэльбу і—гайда на паляваньне.

Удзень прыедзе чырвоны абоз, па стаіць ля коопэрацыі ды паедзе назад

Уночы зьвяртаецца з паляваньня т. Чярняўскі і запытвае, ці ня было абозу? Пачуўшы адказ, заспакойваецца, і на гэтым кропка.

Тое самае і з загатоўкай лёну—100-проц. стаўка на самацёк. Прывозяць лён—Чарняўскага няма. Трэба, каб добра ўясьнілі т. Чарняўскаму, што загатоўкі—справа важнейшая за паляваньне.

# РЭЗОЛЮЦЫІ 2 СЭСІІ БКС

## Рэзолюцыя

### па дакладу тав. Хаскіна аб практычным ажыцьцяўленьні пастаноў студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б аб працы спажывецкай коопэрацыі

Заслухаўшы даклад тав. Хаскіна аб практычным ажыцьцяўленьні пастансў студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б аб рабоце спажывецкай коопэрацыі, 2-я сэсія Савету спажывецкай коопэрацыі БССР адзначае некаторы зрух у выкананьні рашэньняў студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б па рэорганізацыі сеткі гораду і вёскі і аднаўленьню транспортнай коопэрацыі. Ужо створаны ў БССР 6 ТСТ, і канчаецца організацыя і ВТСТ і зачыненых рабочых копэратываў у гарадох і сельСТ на вёсцы.

Разам з гэтым сэсія Савету адзначае зусім нездавальняючы тэмп выкананьня рашэньняў пленуму ЦК КП(б)Б ва ўсіх іншых галінах работы спажывецкай коопэрацыі, а менавіта:

1. Слабая дапамога організуемым ТСТ, зачыненым рабочым коопэратывам з боку асобных цэрабкоопаў (Барысаў, Віцебск, Менск), гандлярскі падыход пры вылучэньні неабходнай матэрыяльнай і фінансавай базы рабкоопаў (Барысаў, Менск) і вельмі слабае разгортваньне грамадскасьці навокал гэтай важнейшай задачы. Зусім слабыя тэмпы працы ў шэрагу ОСТ па організацыі сельСТ, што ставіць пад пагрозу сканчэньне рэорганізацыі ў вызначаны ЦК тэрмін. Сэсія констатуе, што з боку БКС ня было дастаткова жывога кіраўніцтва і дапамогі месцаму правядзеньні рэорганізацыі.

2. Нездавальняюча і нерашуча праводзіцца выкананьне рашэньня пленуму ЦК КП(б)Б аб далейшым ачышчэньні коопэрацыйнага апарату зьнізу даверху ад застаўшыхся яшчэ ў ім варожых, чужых шкодніцкіх элемэнтаў. Ня прыняты яшчэ неабходныя меры па ўцягненьню ў коопэрацыйную работу новых пролетарскіх кадраў і па прасоўваньню на больш адказныя пасады работнікаў, якія апраўдалі сябе на нізавой коопэрацыйнай рабоце.

3. Сэсія адзначае наяўнасьць раду недахопаў у рабоце апарату БКС, якія знаходзяць сваё выражэньне ў нявыразнасьці работы асобных сэктароў, момантах бюрократызму, слабасьці інструктарскага складу; мае перавагу папяровае кіраўніцтва, даюцца процілеглыя паказаньні і г. д. З другога боку, у нізавой сетцы наглядаюцца такія зьявішчы, як ігнараваньне асобных дырэктыў з боку БКС, безадказнасьць і г. д.

Падобнае становішча апарату не забясьпечвае пасьпяховага выкананьня спажкоопэрацыяй дырэктыў партыі. Сэсія даручае праўленьню БКС прыняць усе захады да палепшаньня работы апарату як БКС, так і нізавой сеткі.

4. Нездавальняюча праходзіць перабудова работы спажывецкай коопэрацыі па забесьпячэньню ў адпаведнасьці з дырэктывай пленуму ЦК КП(б)Б, якая гаворыць:

„Рашучым чынам перабудаваць усю работу па забесьпячэньню з пункту погляду выразнага клясавага разьмеркаваньня як прамтавараў, так і продуктаў харчаваньня з улікам першачарговага абслугоўваньня асноўных прамысловых кадраў рабочае клясы і соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, поўнай увязкі забесьпячэньня з выкананьнем прам-

фінпляну, заахвочваючы павялічаным забесьпячэньнем ударнікаў, а таксама з выкананьнем вытворчай програмы плянавых загатовак у соцыялістычным сэктары сельскае гаспадаркі, колгасах і саўгасах“.

Наяўнасьць недаацэнкі з боку асобных ЦРК значэньня заахвочваньня ўдарніцтва павышаным забесьпячэньнем.

Не разгорнута работа па наладжваньню вучоту попыту насельніцтва, ня зроблены рашучыя крокі ў адносінах дыфэрэнцыяцыі завозу тавараў і больш падвышанага забесьпячэньня колгасьнікаў у параўнаньні з адзінаасобнікамі. Ня зьнішчан яшчэ рад агідных фактаў засылкі тавараў у адны раёны за лік другіх.

5. Слаба мобілізуецца грамадзкасьць на барацьбу за якасьць продукцыі, і не распрацаваны рэальныя формы контролю як пры прыёмцы на складах, так і ў асобных магазынах продукцыі, якая прымаецца ад прамысловасьці.

Замест разгортваньня работы па ўзмацненьню працы зачыненых разьмеркавальнікаў і зьнішчэньня недахопаў у іх працы—паслабленьне ўвагі да іх работы (Бабруйскі, Барысаўскі ЦРК).

Не разгорнута работа па ўкараненьню фінансавай дысцыпліны, рашучай барацьбе з растратамі і раскраданьнямі і рэжыму эканоміі, і зусім нездавальняючы ход выкананьня пляну мобілізацыі сродкаў, асабліва на вёсцы, што сьведчыць аб недаацэнцы значэньня ажыцьцяўленьня ўсяго фінансавага пляну і ролі спажывецкай коопэрацыі ў гэтым пляне.

6. Слабы ўдзел усёй сыстэмы і недастатковае кіраўніцтва з боку БКС у падрыхтоўчай працы да другой бальшавіцкай вясновай пасеўкампаніі і зусім нездавальняючы ход падрыхтоўкі да вясновай пасеўкампаніі ў прыгарадных гаспадарках; яшчэ не надан гэтай рабоце сапраўды ўдарны і баявы характар, дзякуючы чаму такія пытаньні, як забесьпячэньне прыгарадных гаспадарак насеньнем, цягавай сілай, рамонтам сельска-гаспадарчага інвэнтару; вывазка навозу, закладка парніковых рам, разгортваньне будаўніцтва баракаў для сэзоных рабочых, вярбоўка як сталых, так і сэзонных рабочых працягваюць заставацца пад пагрозай зрыву.

Застаецца поўнасьцю ня выкананай дырэктыва ЦК КП(б)Б аб прымацаваньні прыгарадных гаспадарак да асобных фабрык і заводаў і разгортваньні навокал пытаньня выкананьня пляну організацыі прыгародных гаспадарак шырокай пролетарскай грамадзкасьці.

7. Працягваюць заставацца антысанітарнае становішча сталовых, дрэнная якасьць абедаў, не забясьпечанасьць сталовак, асабліва зачыненых пры прадпрыемствах, неабходнымі фондамі ды інвэнтаром. Ня зроблены з боку БКС рашучыя крокі ў адносінах выкананьня дырэктывы пленуму аб выдзяленьні справы грамадзкага харчаваньня ў асобную гаспадарча - разьліковую адзінку Белкоопсаюзу.

8. Зусім нездавальняючы ход выкананьня сыстэмай спажывецкай коопэрацыі раду загатовак: хлеба, ільну, мяса, контрактацыі малака ды інш.

Дырэктыва ЦК КП(б)Б аб шырокай організацыі сеткі зборшчыкаў з поўным ахопам падворным абходам усіх відаў сыравіны і другарадных відаў экспорту большасьцю РСТ ня выканана. Ня прынята яшчэ ніякіх мер да перабудовы ўсёй загатоўчай работы на сапраўды грамадзка-масавыя мэтоды працы. Застаецца самацёк і пасыўнасьць у загатоўчай рабоце, што прыводзіць асобныя РСТ не да ролі актыўнага загатоўцы, а тэхнічнага прыёмшчыка загатаўляемай сыравіны; недавядзеньне ў асобных раёнах плянаў загатовак да кулацкага і заможнага двара, што сьведчыць аб праваопортуністычнай практыцы асобных РСТ.

Сэсія констатуе няпрыняцьце мер у ажыцьцяўленьне дырэктыў пленуму ЦК КП(б)Б і па раду іншых пытаньняў.

Выходзячы з гэтага, сэсія Савету спажывецкай коопэрацыі БССР пастанаўляе:

1. Прызнаючы зусім недапушчальным, што цэлы рад важнейшых рашэньняў студзеньскага пленуму ЦК КП (б) Б яшчэ не атрымаў свайго практычнага ажыцьцяўленьня, і зусім недастаткова мобілізавана ўвага як работнікаў спажывецкай коопэрацыі, так і ўсяго коопэрацыйнага актыву навакол гэтых рашэньняў, сэсія абавязвае праўленьне Белкоопсаюзу, ЦРК, РСТ і рабкоопы безадкладна прыняць рашучыя меры і бальшавіцкія тэмпы ў галіне практычнага ажыцьцяўленьня ўсіх рашэньняў пленуму ЦК КП (б) Б, вядучы рашучую барацьбу з момантамі недаацэнкі значэньня гэтых рашэньняў у практычнай рабоце кожнай організацыі.

2. Максымальна ўзмацніць разгорнутую работу па рэорганізацыі сеткі як у горадзе, так і на вёсцы з тым, каб уся рэорганізацыя сеткі, г. зн. стварэньне рабочых коопэратываў пры буйнейшых прадпрыемствах, сельСТ, у кожным сельсавеце, укомплектаваньне неабходнымі работнікамі было скончана ў тэрмін, які ўстаноўлен пленумам ЦК КП (б) Б.

Асаблівую ўвагу зьвярнуць на ўцягненьне ў выбарчыя органы нанова організуемых як рабкоопаў у гародах, так і сельСТ на вёсцы, рабочых колгаснікаў, батракоў і беднякоў, рашучым чынам зьнішчаючы моманты гандлярскага падыходу з боку асобных ЦРК і РСТ пры організацыі рабкоопаў і сельСТ і пры стварэньні неабходнай для іх гаспадарча - фінансавай базы. БКС і РСТ зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку неабходных кадраў рахунковых працаўнікоў.

3. Сэсія прапануе праўленьню Белкоопсаюзу правесьці на працягу месяца ў выбарчым парадку спецыяльнае абсьледваньне становішча работы зачыненых разьмеркавальнікаў з прыцягненьнем шырокіх рабочых мас і прыняць усе неабходныя меры да ўзьняцьця значэньня зачыненых разьмеркавальнікаў, як аднэй з лепшых форм клясавага разьмеркаваньня продуктаў і прамтавараў, на належную вышыню, увязаўшы гэтую работу з правадзімым аглядам становішча зачыненых разьмеркавальнікаў, рашучым чынам зьнішчыць усё яшчэ працягваючыя мець месца буйнейшыя недахопы ў рабоце зачыненых разьмеркавальнікаў.

Асабліва важнае значэньне набывае надыходзячая перарэгістрацыя гарадзкога насельніцтва. Сэсія абавязвае ЦРК і адпаведныя РСТ зьвярнуць максымум увагі на пасьпяховае правядзеньне перарагістрацыі і прапануе БКС забясьпечыць адпаведнае кіраўніцтва ў правядзеньні перарагістрацыі і своячасовым выданьні новых наборных дакумэнтаў. Таксама паскорыць выданьне адзінага наборнага дакумэнту для вёскі.

4. Сэсія Савету абавязвае праўленьне Белкоопсаюзу, усе ЦРК і райСТ скончыць перабудову ўсёй работы па забесьпячэньню з пункту погляду практычнага ажыцьцяўленьня і ўвядзеньня ў практыку ўсёй снабжэнчай работы ЦРК і РСТ зусім выразнага клясавага разьмеркаваньня як прамтавараў, так і продуктаў харчаваньня.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на практычнае ажыцьцяўленьне забесьпячэньня па ўстаноўленых сьпісах з тым, каб першачарговасьць забесьпячэньня рабочых, якія працуюць у важнейшых галінах прамысловасьці, была ў практычнай рабоце кожнага ЦРК і райСТ праведзена ў жыцьцё. БКС павінен своячасова вызначаць і паведамляць організацыі аб плянах забесьпячэньня асобных соцыяльных груп і правяраць выкананьне адправак прамысловасьцю.

5. Сэсія Савету абавязвае праўленьне БКС і ЦРК устанавіць сыстэматычны вучот прадпрыемстваў, якія выконваюць прамфінплян, а таксама вучот ударніцтва на прадпрыемствах з тым, каб пры пабудо-

ве як квартальных, так і месячных плянаў забесьпячэньня было зусім выразна адбіта пераважнае і першачарговае забесьпячэньне прадпрыемстваў, якія пасьпяхова выконваюць прамфінплян, і абавязкова вызначаліся на кожны квартал спэцыяльныя фонды для дадатковага забесьпячэньня ўдарнікаў.

Сэсія Савету лічыць неабходным ўвядзеньне ў практыку работы як Белкоопсаюзу, так ЦРК і РСТ праверкі выкананьня месячных і квартальных плянаў забесьпячэньня як па асобных сьпісах забясьпечваемага насельніцтва, так і асобных прадпрыемстваў, якія пасьпяхова выконваюць прамфінплян і ўдарніцтва.

6. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута пры складаньні плянаў забесьпячэньня на сваячасовае забесьпячэньне неабходнымі фондамі як продуктаў харчаваньня, так і прамтавараў нанова організуемых зачыненых рабочых коопэратываў і сельСТ, пабудаваўшы пляны забесьпячэньня і выкананьня іх такім чынам, каб зачыненыя рабочыя коопэратывы і сельСТ сваячасова атрымлівалі неабходныя ім фонды.

7. Сэсія Савету прапануе праўленьню Белкоопсаюзу сконцэнтраваць выключную ўвагу на практычным ажыцьцяўленьні рашэньняў пленуму ЦК аб палепшаньні практыкі плянаваньня і завозу тавараў, з тым, каб у карацейшы тэрмін зьнішчыць нанесеную шкодніцкімі элемэнтамі страту ў плянаваньні і ўстанавіць у далейшым такі парадак, пры якім ня было-б месца завозу тавараў не ў адпаведнасьці з попытам асобных раёнаў і затаварваньня адных раёнаў за кошт другіх, строга дыфэрэнцыяваўшы завоз тавараў у адпаведнасьці з запатрабаваньнем кожнага раёну, і абавязвае праўленьне Белкоопсаюзу ўжо ў першым квартале дабіцца рашучых вынікаў у гэтых адносінах.

Сэсія абавязвае праўленьне Белкоопсаюзу скончыць работу па перабудове пляну забесьпячэньня вёскі з тым, каб у гэтым пляне было дасканальна адбіта забесьпячэньне социялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, настаўніцтва, 25-тысячнікаў, рабочых саўгасаў, колгасаў, і на практыцы было праведзена ў жыцьцё пераважнае і падвышанае забесьпячэньне колгасьнікаў. Неабходна таксама ў пляне забесьпячэньня вёскі поўнасьцю адваяваць фонды для загатовак з дасканальным паказаньнем, якая колькасьць ідзе для стымуляваньня загатовак социялістычнага і індывідуальнага сэктароў, вядучы рашучую барацьбу з опортуністычнай практыкай недазабесьпячэньня колгаснага сэктару.

8. Праўленьню Белкоопсаюзу ў 2-дэкадны тэрмін устанавіць спэцыяльны вучот і контроль за ходам сваячасовай адгрузкі тавараў і паступлeньня іх на месцы з тым, каб была поўная магчымасьць сваячасова прымаць неабходныя меры па паскораньню таварапрасоўваньня і тым самым не дапушчаць перабояў як у забесьпячэньні працоўных мас, так і забесьпячэньні стымуляваньня загатовак.

Асаблівую ўвагу сэсія прапануе ўсім ЦРК і райСТ зьвярнуць на якасьць продукцыі, такім чынам не дапушчаючы прыёмкі нядобраякаснай продукцыі, і ўстанавіць стражэйшы контроль пры прыёмцы прыбываючых на склад тавараў, прыцягваючы да суровай адказнасьці ўсіх работнікаў, якія прымаюць нядобраякасную продукцыю і выпускаюць яе ў продаж.

9. Недастатковасьць фондаў для поўнага забесьпячэньня ўсіх працоўных патрабуе жорсткай эканоміі іх выдаткаваньня, удасканаленьня сапраўднай колькасьці забясьпечваемага працоўнага насельніцтва, рашучага ачышчэньня коопэратываў ад так званых „мёртвых душ“, правільнага аднясеньня асобных працоўных да ўстаноўленых сьпісаў забесьпячэньня і прыняцьця рашучых мер да пашырэньня харчовай базы за кошт мясцовых кры-

ніц, асабліва максымальнага разгортваньня адкорму сьвіней.

10. Улічваючы, што дастатковае і сваячасовае снабжэньне начполітскладу і яго сем'яў ёсьць мерапрыемства, якое забясьпечвае нормальную баявую падрыхтоўку часьцей Чырвонай арміі, а тым самым і абараноздольнасьці краіны, сэсія Белкоопсаюзу лічыць:

а) у кожным гарнізоне, не залежна ад месца яго знаходжаньня, забесьпячэньне начполітскладу і яго сем'яў павінна быць задаволена поўнасьцю па існуючых нормах як продуктаў харчаваньня, так і прамтавараў, зьвярнуўшы ўвагу на завоз тавараў спэцыфічных для вайсковага спажыўца (адзеньне, узбраеньне, мэбля і г. д.);

б) даручыць сэктаром забесьпячэньня і грамдзкага харчаваньня забясьпечыць зачыненыя вайсковыя сталовыя поўнай бесьперабойнай дастаўкай продуктаў харчаваньня, усклаўшы адказнасьць за гэта на цэрабкоопы і сельскую сець, дзе ёсьць гарнізоны;

в) зьвярнуць асаблівую ўвагу Белкоопсаюзаў і нізавой сеткі спажкоопэрацыі на разгортваньне і забесьпячэньне дзіцячых бытавых установаў, сталовых і арганізацыі дыэтычнага харчаваньня для хворых у гарнізонах для начполітскладу ды яго сем'яў;

г) улічваючы наступленьне лягернага пэрыоду, даручыць сэктару забесьпячэньня і грамдзкага харчаваньня падрыхтавацца да забесьпячэньня лягераў як па лініі грамадзкага харчаваньня, так і па лініі прамтавараў.

11. Сэсія катэгарычна патрабуе ад усіх цэрабкоопаў, рабкоопаў і РСТ безагаворачнага выкананьня пляну мобілізацыі сродкаў тавараабароту, увядзеньня стражэйшай фінансавай дысцыпліны і рашучай барацьбы з растратамі і раскраданьнямі. Сэсія прапануе ўсім ЦРК і РСТ безадкладна прыняць усе неабходныя меры да паскораньня тавараабароту і выкананьня пляну рэалізацыі тавараў, у 2-дэкадны тэрмін правесьці праверку рэштак тавараў, з якіх усе няходкія і заляжаўшыяся безадкладна пераацаніць у бок зьніжэньня цаны іх.

Улічваючы, што большасьць арганізацый ЦРК і РСТ у сваёй гандлёвай дзейнасьці маюць вялізарныя страты ў сувязі з неўрэгуляванасьцю пытаньня ўзаемаадносін прамысловасьці з спажывецкай коопэрацыяй, сэсія абавязвае праўленьне Белкоопсаюзу правесьці ў двухдэкадны тэрмін у выбарчым парадку спэцыяльнае абследваньне асобных ЦРК і РСТ з устанаўленьнем дасканальных памераў атрымоўваемых страт па продажу асобных прамтавараў і рашуча паставіць перад Цэнтрасаюзам пытаньне аб максымальным паскораньні вырашэньня гэтага пытаньня.

12. Сэсія Савету абавязвае праўленьне Белкоопсаюзу, ЦРК і РСТ разгарнуць выключна бальшавіцкія тэмпы па выкананьню дырэктыў пленуму ЦК КП(б)Б аб разгортваньні прыгарадных гаспадарак і поўным выкананьні намечаных плянаў, для чаго накіраваць маючыяся сродкі ў першую чаргу для поўнага асваеньня намечанага плянам засеву гародных культур і неабходных відаў будаўніцтва: баракі, хлявы і г. д., а таксама поўнае выкананьне пляну загатоўкі насеньня і сваячасовага забесьпячэньня гэтым насеньнем прыгарадных гаспадарак.

З прычыны таго, што зацьверджаныя па пляну сумы фінансаваньня прыгарадных гаспадарак забясьпечваюць выкананьне програм толькі на 40 проц., сэсія прапануе праўленьню Белкоопсаюзу і цэрабкоопу максымальна разгарнуць збор мэтавых авансаў, дабіцца ўдзелу ў фінансаваньні прыгарадных гаспадарак гарадзкіх саветаў.

13. Сэсія савету прапануе Белкоопсаюзу і ўсёй сыстэме рашучымі мерамі выканаць пляны загатовак і скончыць арганізацыю шырокай сеці зборшчыкаў, унядрыць ва ўсю загатоўчую работу неабходныя бальшавіцкія тэмпы, выжыць з прак-

тыкі загатоўчай работы моманты самацёку і пасыўнасьці. Выключная ўвага павінна быць сконцэнтравана на перабудове ўсёй загатоўчай работы ў сувязі з організацыяй у кожным сельсавеце сельСТ. Неабходна дабіцца, каб організуемыя сельСТ на сяле ва ўсей сваёй рабоце забясьпечвалі максымальны ўдзел шырокіх мас калгасьнікаў, беднякоў, батракоў і серадняков у пасьпяховым выкананьні пляну загатовак.

14. Сэсія Савету абавязвае праўленьне БКС у месячны тэрмін скончыць працу па вылучэньню грамадзкага харчаваньня, у адпаведнасьці з рашэньнем пленуму ЦК КП(б)Б у асобную гаспадарча-разьліковую адзінку, па вылучэньню цьвёрдых фондаў, асабліва для зачыненых сталовак на прадпрыемствах, а ЦРК і РСТ—безадкладна прыступіць да зьнішчэньня маючыхся буйнейшых недахопаў у працы сталовак і зьвярнуць асаблівую ўвагу на экономнае выдаткаваньне прадуктаў, у тым ліку і хлеба.

15. Выяўленая шкодніцкая дзейнасьць у апараце БКС, асабліва ў галінах пляінаваньня, таваразвароту і фінансаваньня, патрабуе прыняцьця рашучых мер і мабілізацыі ўсіх працаўнікоў спажкоопэрацыі і коопэрацыйнай грамадзкасьці на зьнішчэньне ўсіх недахопаў і злачынстваў у працы сыстэмы, нанесеных шкоднікамі, максымальнай пільнасьці і сур'ёзнага падыходу да вырашэньня і правядзеньня ўсіх гэтых пытаньняў, вывучэньня і аўладаньня тэхнікай працы.

Сэсія лічыць неабходным катэгарычна паставіць пытаньне аб тым, каб па сканчэньні сьледзтва шкоднікі з усёй суровасьцю былі пакараны пролетарскім судом.

16. Сэсія абавязвае праўленьне БКС, ЦРК і РСТ прыняць усе неабходныя меры да практычнага ажыцьцяўленьня рабочага контролю над работай спажкоопэрацыі, максымальнага разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва, узмацненьня масавай работы і зусім конкрэтных і рашучых мер па далейшаму ачышчэньню, праводзячы ў жыцьцё ўзмацненьне апарату як БКС, так і ЦРК і РСТ новымі пролетарскімі кадрамі як за лік узмацненьня разгортваньня падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі новых пролетарскіх кадраў праз сетку навучальных устаноў БКС, так і за лік прасоўваньня з нізавой коопэрацыйнай работы на больш адказную—кіруючую.

Сэсія Савету лічыць неабходным прасіць ЦК КП(б)Б паскорыць правядзеньне мобілізацыі спрактыкаваных работнікаў для ўзмацненьня сыстэмы спажывецкай коопэрацыі.

---

# Рэзолюцыя

## сэсіі Савету БКС па дакладу т. Рубэна па пытаньню аб палепшаньні абслугоўваньня соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі

1. Задача далейшага павялічэньня ролі спажкоопэрацыі ў справе соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, разьвіцьця соцыялістычных мэтодаў працы патрабуе правядзеньня рашучай перабудовы ўсёй працы вясковай спажкоопэрацыі ў напрамку яшчэ большага падпарадкаваньня ўсёй працы задачы соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, садзейнічаньня разьвіцьцю калгаснага руху.

2. Спажывецкая коопэрацыя на працягу апошняга году мае некаторыя дасягненьні ў галіне абслугоўваньня колгасаў і саўгасаў, як-та: рост крам у саўгасах з 31 крамы на 1-V-30 г. да 64 на 1-I-1931 г., адчыненьне 7 сталых ясьляў пры саўгасах і 46 пры кол-

гасах (летам існавала 230 часовых ясьляў). Ёсьць некаторыя нязначныя дасягненьні ў таваразабесьпячэньні саўгасаў шляхам вылучэньня спэцыяльных фондаў продуктаў і прамтавараў.

3. Аднак гэтыя дасягненьні зьяўляюцца зусім нязначнымі і не адпавядаюць тым запатрабаваньням, якія ставяцца перад спажкоопэрацыяй у галіне абслугоўваньня соцыялістычнага сэктару. Сэсія адзначае рад буйнейшых недахопаў, якія сьведчаць аб тым, што спажкоопэрацыя зьверху данізў рашуча не перабудавала сваей працы ў напрамку абслугоўваньня соцсэктару сельскай гаспадаркі:

а) наяўнасьць крамнай сеткі па саўгасах (64) зусім не забясьпечвае нормальнага абслугоўваньня таварапродуктамі рабочых саўгасаў і зьяўляецца далёка недастатковай;

б) сыстэма абслугоўваньня праз крамы з прызначанымі загадчыкамі не забясьпечвала актыўнага ўдзелу рабочых саўгасаў ва ўсёй рабоце коопэрацыі;

в) процант коопэраваньня (80-85) зьяўляецца зусім недастатковым, і ў гэтых адносінах ня выкананы катэгорычныя дырэктывы аб 100-проц. коопэраваньні рабочых саўгасаў;

г) культмасавае і бытавое абслугоўваньне саўгасаў і колгасаў зьяўляецца нездавальняючым; колькасьць бытавых установў недастатковая і не забясьпечвае нормальнага абслугоўваньня культурных і бытавых патрэб соцыялістычнага сэктару вёскі.

Спажкоопэрацыя не праводзіла ніякай працы ў адносінах мобілізацыі ўвагі грамадзкасьці, а таксама прыцягненьня сродкаў самога працоўнага насельніцтва ў справе організацыі культурна-бытавых мерапрыемстваў;

д) грамадзкае харчаваньне ў саўгасах пастаўлена дрэнна; колькасьць сталовак (156) не забясьпечвае ахопу асноўнай масы рабочых саўгасаў, і сама пастаноўка грамадзкага харчаваньня не стымулюе пераходу рабочых на колектыўнае харчаваньне (кепская якасьць, высокія цэны, антысанітарыя); з боку асобных РСТ не рабілася неабходнай організацыйнай дапамогі ў справе організацыі колгасамі грамадзкага харчаваньня;

е) таваразабесьпячэньне саўгасаў праходзіла нездавальняюча: пляны забесьпячэньня да асобных саўгасаў і колгасаў не даводзіліся. З прычыны формальнага і бюрократычнага падыходу з боку цэлага шэрагу організацый спажкоопэрацыі да справы забесьпячэньня колгасаў і саўгасаў, спасыланьня на невызначэньне асобных фондаў не праводзілася першачарговае забесьпячэньне асноўнымі таварамі соцыялістычнага сэктару; устаноўленыя нормы забесьпячэньня соцсэктару не захоўваліся;

ж) адзначыць меўшыя месца зусім абураючыя факты, калі паасобнымі раёнамі пры правядзеньні прэм'яваньня загатовак і забесьпячэньня колгасы былі пастаўлены ў значна горшыя ўмовы па прэм'яваньню, чым індывідуальны сэктар, замест выкананьня прамой дырэктывы павялічанага першачарговага забесьпячэньня колгасьнікаў (Коханава, Клімавічы, Сьмілавічы, Глуск і інш.). Такія факты і такія адносіны зьяўляюцца праявай правага ўхілу на практыцы.

Выходзячы з вышэйпаказанага і ўлічваючы неабходнасьць зрабіць рашучы пералом у справе абслугоўваньня соцыялістычнага сэктару, грунтуючыся на пастанове пленуму ЦК КП(б)Б, сэсія савету БКС пастанаўляе:

1. Абавязаць праўленьне БКС і ўсе праўленьні райспажтаварыстваў (райсаюзаў) закончыць організацыю (у саўгасах, дзе ёсьць ня менш 200 сталых рабочых) 12 зачыненых рабкоопаў і 176 зачыненых разьмеркавальнікаў у астатніх саўгасах, а таксама ва ўсіх нанова організаваных саўгасах, вылучыўшы працаўнікоў у гэтыя рабкоопы і зачыненыя разьмеркавальнікі з лепшых рабочых саўгасаў.

2. Організаваць крамы ў колгасах, якія знаходзяцца на адлегласьці звыш 2 кілёмэтраў ад агульнай крамы і налічваюць больш 50 гаспадарак.

3. Прапанаваць праўленьню БКС сваячасова даводзіць агульныя пляны забесьпячэньня саўгасаў і МТС ад кожнага РСТ (райсаюзу), апошні даводзіць гэтыя пляны да кожнага саўгасу.

4. У плянах, якія складаюцца па забесьпячэньню вёскі, абавязкова ўлічваць забесьпячэньне колгасаў, пры чым у гэтых плянах павінна быць улічана падвышанае і першачарговае іх забесьпячэньне.

5. У мэтах большага стымуляваньня нарыхтовак у соцсэктары і падвышанага забесьпячэньня тых саўгасаў і колгасаў, якія добра выконваюць гаспадарчыя пляны і ўрадовыя заданьні па засеву, а таксама акуратна і поўна выконваюць другія заданьні, устанавіць больш павялічанае забесьпячэньне, абавязаўшы райсаюзы ўстанавіць вучот выкананьня паасобнымі саўгасамі і колгасамі гаспадарчых плянаў з мэтай павялічанага забесьпячэньня іх.

6. Праўленьню БКС абавязкова вылучыць фонды прамтавараў для дадатковага забесьпячэньня рабочых, лепшых ударнікаў саўгасаў і колгасаў МТС, даводзячы гэтыя фонды да кожнага раёну, а праўленьням райсаюзаў — да кожнага саўгасу і колгасу.

7. Абавязаць праўленьне БКС забясьпечыць цьвёрдымі фондамі па забесьпячэньню соцыялістычны сэктар вёскі ў адпаведнасьці з устаноўленымі для яго нормамі, абавязаўшы РСТ (райсаюзы), у вывыпадку несваячасовага атрыманьня вызначаных фондаў, забясьпечыць саўгасы ў першую чаргу з агульных паступаючых фондаў з наступным іх пакрыцьцём.

8. Абавязаць усе РСТ у 2-дэкадны тэрмін скласьці конкрэтныя пляны і распрацаваць мерапрыемствы па палепшаньню пастаноўкі грамадзкага харчаваньня па кожнаму паасобнаму саўгасу, забясьпечыўшы іх ажыцьцяўленьне ў асноўным не пазьней 15 красавіка.

Праўленьню БКС у дэкадны тэрмін даслаць усім раёнам удасканаленыя контрольныя заданьні, патрабуючы ад іх тэрміновага і поўнага выкананьня.

9. У мэтах большага прыстасаваньня асортымэнту да запатрабаваньня рабочых саўгасаў і колгасьнікаў, забясьпечыць непасрэдны ўдзел рабочых саўгасаў і колгасьнікаў у праверцы асортымэнту тавараў, актывізаваўшы іх ролю ў працы контрольна - асортымэнтных пунктаў.

10. Забясьпечыць пераважную ролю рабочых і колгасьнікаў у складзе кіруючых і контрольных органаў і органаў коопэрацыйнай грамадзкасьці спажыўсыстэмы.

11. У адносінах правядзеньня ўсёй культмасавай і бытавой працы перанесьці цэнтр асноўных мерапрыемстваў у саўгасы, колгасы і МТС, зрабіўшы іх апорнымі пунктамі ў правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў. Рашуча перабудаваць працу ў галіне культбытавых мерапрыемстваў на базе сапраўднай актывізацыі саўгасных і колгасных мас і падвышэньня матар'яльнага ўдзелу іх у гэтых мерапрыемствах.

12. Надаючы надзвычайна важнае значэньне абслугоўваньню колгасаў нацменшасьцяй, сэсія савету прапануе праўленьню БКС і ўсёй сыстэме зьвярнуць асаблівую ўвагу на іх незабесьпячэньне і правядзеньне конкрэтных шэрагу мерапрыемстваў, якія сапраўды палепшылі-б іх абслугоўваньне (як па лініі забесьпячэньня, так і па культбытавому абслугоўваньню).

13. Абавязаць райсаюзы і сельСТ мобілізаваць шырокую грамадзкасьць і разгарнуць шырокую грамадзкую працу па правядзеньню поўнага коопэраваньня ўсіх рабочых саўгасаў і колгасьнікаў, праводзячы адначасова з гэтым працу па сваячасоваму ўнясеньню паявых узносаў, мобілізацыі ўкладаў, мэтавых узносаў і г. д. Абавязаць усю

сыстэму давесьці процант коопэраванага дарослага насельніцтва саўгасаў і колгасаў да 100 проц. на 1-I-1932 г.

14. Ухваляючы пастанову праўленьня БКС аб арганізацыі пры кожным сельСТ ініцыятыўных груп па садзейнічаньню колектывізацыі, сэсія савету абавязвае ўсю сыстэму арганізаваць сыстэматычную працу з гэтымі групамі. Лічыць неабходным на працягу сакавіка-красавіка месяцаў правесьці раённыя нарады гэтых груп. Праўленьню БКС безадкладна распрацаваць палажэньне аб працы ініцыятыўных груп.

15. Прапанаваць праўленьню БКС арганізаваць у сакавіку і красавіку м-цах генэральную праверку выкананьня дырэктыў партыі, ураду і праўленьня БКС па абслугоўваньню соцсэктару і шырока прыцягнуць да ўдзелу ў гэтай праверцы рабочых саўгасаў і колгасьнікаў.

16. Надаючы важнейшае палітычнае значэньне правядзеньню 2-ое бальшавіцкае вясны сэсія савету Белкоопсаюзу ў асноўным зацьвярджае плян мерапрыемстваў па вясновай пасеўнай кампаніі, абавязваючы праўленьне БКС і ўсю сыстэму ў баявым і ўдарным парадку правесьці іх у жыцьцё.

Сэсія савету зварочвае асаблівую ўвагу на неабходнасьць рашучай перабудовы працы сыстэме (таварнае абслугоўваньне, грамадзкае харчаваньне, культбытавое абслугоўваньне) стасоўна да ўмоў палявой працы.

У агульных мерапрыемствах па пасеўнай кампаніі пытаньне аб забесьпячэньні гаручым МТС зьяўляецца адказьнейшым і важнейшым. Выходзячы з гэтага, сэсія савету абавязвае ўсю сыстэму ўзяць пад асобны нагляд практычную працу па абслугоўваньню МТС.

17. Праўленьню БКС патрабаваць ад цэнтраў, якія абслугоўваюць соц. сэктар вёскі (Белсельтрэст, Сьвінаводтрэст, Трактарацэнтр, Калгасцэнтр, Насентрэст) катэгорычных дырэктыў сваім організацыям на мясцох аб забесьпячэньні неабходных умоў спажкоопэрацыі для выкананьня ўсіх вызначаных мерапрыемстваў шляхам сваячасовага адводу належных памяшканьняў, іх абсталяваньня ды інш.

---

# Рэзолюцыя

## па дакладу тав. Шэйніна аб мобілізацыі сродкаў насельніцтва і мерапрыемствах па капітальнаму будаўніцтву на 1931 г.

1. Мобілізацыя сродкаў па лініі спажывецкай коопэрацыі мае вялізарнае значэньне ня толькі для коопэрацыйнае сыстэмы, але і для ўсяго фінансавага пляну нашай дзяржавы. Ня гледзячы на гэта, справе мобілізацыі сродкаў насельніцтва з боку нашай сыстэмы ня было ўдзелена дастатковай увагі, і фактычна дырэктыва ЦК КП(б)Б да гэтага часу ня выканана.

Плян БКС па збору паёў у асобным квартале выканан усяго на 89,7 проц. Па капітальнаму будаўніцтву, хоць і выканан ён з перавышэньнем (208,3 проц.), але па гораду процант выкананьня складае толькі 95,2 проц.

Студзень і люты м-цы даюць яшчэ большае зьніжэньне, а менавіта: у студзені м-цы плян збору паёў выканан усяго на 56,1 проц., па будаўніцтву—85,5 проц. (па вёсцы—111 проц., а па гораду—толькі 35,3 проц.), авансы і ўклады даюць адліў.

За 20 дзён лютага па паёх плян выканан усяго на 39,5 проц., па будаўніцтву—на 55,8 проц., уклады і авансы таксама, як і ў студзені, даюць адліў.

У лютым м-цы асабліва дрэнна абстаіць справа ў наступных РСТ: Высачанскім (5.6 проц.), Барысаўскім (14,1 проц.), Бялыніцкім (16,3 проц.), Кармянскім (15,4 проц.), Любаньскім (15 проц.), Тураўскім 15,4проц.), Капаткевіцкім (16,4 проц.), Гомельскім (18 проц.), Быхаўскім (22,9 проц.), Жлобінскім (28,9 проц.), Сьвіславіцкім (17,7 проц.), Чачэрскім (20 проц.), Хоцімскім (25 проц.), Чавускім (18,5 проц ), Петрыкаўскім (26 проц.), Расьнянскім (26 проц.), і Сураскім (23 проц.).

З ЦРК вельмі дрэнна абстаіць справа ў Добрускім (40 проц.) і Аршанскім (43,5). Няма зусім вестак ад наступных РСТ: Асьвейскага, Копыскага, Ліозьнянскага, Межанскага, Полацкага і ад Барысаўскага, Мазырскага і Жлобінскага ЦРК.

Таксама наглядаецца і недавыкананьне па тавараразвароту. За 20 дзён лютага плян выканан усяго на 52,8 проц. Толькі ў сьнежні м-цы была мобілізавана партыяй увага ўсіх грамадзкіх організацый па пытаньню мобілізацыі сродкаў: мы маем падвышэньне процанту выкананьня плянаў (па паёх—160 проц., будаўніцтву—30 проц).

Асноўнай прычынай невыкананьня плянаў па мобілізацыі сродкаў зьяўляецца опортуністычная недаацэнка гэтай важнейшай работы з боку ЦРК і РСТ, якія ня здолелі перабудаваць сваю работу паўдарнаму і не займаліся гэтым пытаньнем у сваёй штодзённай практычнай працы (ня былі мобілізаваны вакол гэтага пытаньня ўсе працаўнікі саміх РСТ і ЦРК і коопэрацыйнага актыву).

Уся гэта работа насіла кампанейскі характар і больш менш энэргічна праводзілася толькі пасьля націску з боку адпаведных органаў. Да гэтага часу ў большасьці цэрабкоопаў і РСТ была надзея на самацёк.

3. Сэсія савету БКС зацьвярджае на 1931 г. плян сбору сродкаў па сыстэме спажывецкай коопэрацыі: па паёх—16.000.000 р., будаўніцтву—5.000.000 р. укладаў) і авансах—1.900.000 р.

4. Савет БКС прапануе праўленьню БКС, на падставе ліку пайнікаў, проц. коопэраваньня, колькасьці насельніцтва і запазычанасьці,—да 10 сакавіка разьвярстаць гэтыя сумы па асобных рабкоопах і райсаюзах, а апошнім—па асобных сельСТ і крамах, распрацаваўшы календарны плян збору азначаных сродкаў; таксама кожны месяц распрацоўваць пляны рэалізацыі тавараў.

5. Савет прапануе безадкладна павесьці растлумачальную работу сярод рабочых, колгасьнікаў, батракоў, беднякоў і сераднякоў аб важнасьці гэтае задачы.

Савет абавязвае ўсю сыстэму спажывецкай коопэрацыі пераключыцца на ўдарныя тэмпы і весьці работу па мобілізацыі сродкаў ня толькі кампанейскім чынам, а займацца ёю ў сваёй сталай штодзённай працы.

Для гэтае мэты кожны рабкооп, кожны райсаюз, кожнае сельСТ абавязаны вылучыць аднаго работніка, адказнага за мобілізацыю сродкаў. Апошні падэкадна павінен дакладваць на паседжаньні праўленьня аб ходзе мобілізацыі сродкаў як па паёх, будаўніцтву і укладах, так і па тавараразвароту, а праўленьне БКС павінна заслухоўваць справаздачу аб ходзе гэтае справы ня менш як 1 раз у месяц.

6. Устанавіць стражэйшую дысцыпліну ў выдаткаваньні сродкаў, не дапушчаючы ніякага выдаткаваньня, не прадугледжанага і незацьверджанага плянам праўленьня БКС.

7. Сэктару забесьпячэньня лепш манэўраваць промтаварнымі фондамі, прыстасаваўшы пярэкідку асортымэнту тавараў у залежнасьці ад запатрабаваньняў данага раёну і асобных груп спажыўцоў.

Для далейшага манэўраваньня таварнымі фондамі і лепшага прыстасаваньня асортымэнту да запатрабаваньняў асобных раёнаў да-

біцца ў Цэнтрасаюзе атрыманьня сьпісу асортымэнтаў да выдачы нарадаў.

У карацейшы тэрмін ліквідаваць залежы тавараў шляхам пярэкідкі нехадавых для данага раёну тавараў у другі, рэагуючы на пытаньні пярэкідкі тавараў не пазьней як праз 2 дні па атрыманьні пытаньня РСТ.

Завесьці ў БКС стражэйшы вучот па правядзеньню мобілізацыі сродкаў. Організаваць сапраўднае соцспабцрніцтва паміж асобнымі рабкопамі, райсаюзамі, сельСТ і асобнымі крамамі па мобілізацыі сродкаў і выдаваць прэміі асобна выдаўшымся.

8. Абавязаць усю сыстэму спажывецкай коопэрацыі прыняць неабходныя крокі да скарачэньня гандлёвых і адміністрацыйных выдаткаў.

9. Адзначаючы невыкананьне плянаў коопэраваньня рабочых, калгасьнікаў, беднякоў і беднаты, асабліва членаў сем'яў, савет абавязвае ўсе РСТ і ЦРК зараз-жа прыняць неабходныя крокі, каб ахапіць на вёсцы коопэраваньнем ня менш 70 проц. усяго дарослага працоўнага насельніцтва, а ў горадзе поўныя 100 проц. дарослага рабочага насельніцтва.

10. Савет абавязвае праўленьне БКС безадкладна распрацаваць пляны фінансаваньня і правядзеньня будаўнічых работ, у першую чаргу пабудаваўшы неабходныя для правядзеньня вясновай пасеўнай кампаніі, нафтабакі, баракі, сталовыя для рабочых прыгарадных гаспадарак, сьвінаадкормачныя базы і г. д.

Апрача таго форсаваць пабудову фабрык-кухняў, хлебазаводаў, сталовак і пякарняў.

11. Констатуючы недастатковасьць забесьпячэньня будаўніцтва будаўнічымі матар'яламі, а менавіта: пі-ламатар'ямі на 4 проц., цьвікамі на 7 проц., круглым лесам—на 34 проц., прасіць СНК абавязаць Дзяржплян і ВСНГ безадкладна забясьпечыць усё будаўніцтва БКС будаўнічымі матар'ямі.

12. Белкоопсаюзу сачыць за тым, каб максымальна зьменшыць выдаткаваньне дэфіцытных будматар'ялаў і наогул падзешавіць будаўніцтва.

13. Абавязаць вылучаны праўленьнем БКС „штаб па пасеўкампаніі „на пэрыод вясновай пасеўкампаніі заслухоўваць справаздачы аб ходзе будаўнічай работы і забесьпячэньні будаўнічымі матар'ямі кожныя 10 дзён.

Праўленьню БКС рэгулярна заслухоуваць справаздачы аб ходзе будаўніцтва і забесьпячэньні будаўнічымі матар'ямі не радзей 1 разу ў месяц.

14. Забараніць усякае няплянавае капітальнае будаўніцтва і капітальныя рамонты, не зацьверджаныя БКС, прыцягваючы вінаватых да крымінальнае адказнасьці. Не дапушчаць выдаткаваньня сродкаў па капітальнаму будаўніцтву, на якія-б то ні было іншыя мэты.

15. Прапанаваць будаўнічаму аддзелу БКС забясьпечыць усё будаўніцтва плянамі і чырцяжамі і забараніць РСТ і ЦРК выдаткоўваць якія-б та ні было сродкі па складаньню плянаў.

16. Адзначаючы адсутнасьць вучоту будаўніцтва, абавязаць усе РСТ і ЦРК весьці сталы вучот каштоўнасьці будаўніцтва па кожнаму об'екту.

17. Абавязаць будаўнічы аддзел сачыць за выкананьнем дырэктыў ураду аб зьніжэньні каштоўнасьці будаўніцтва.

18. Прасіць райкомы, гаркомы і выканкомы аказваць садзейнічаньне сыстэме спажыўкоопэрацыі ў правядзеньні пляну будаўніцтва, заслухоўваючы рэгулярна справаздачы праўленьняў РСТ і ЦРК на сваіх пасяджэньнях.

19. Лічыць неабходным высьвятліць у мясцовым і рэспубліканскім друку ход мобілізацыі сродкаў і будаўніцтва па сыстэме спажывецкай коопэрацыі.

# Рэзолюцыя

## сэсіі савету Белкоопсаюзу аб становішчы прыгарадных гаспадарак і падрыхтоўцы іх да вясеньняй пасеўнай кампаніі

1. Разгортваньне прыгарадных гаспадарак зьяўляецца важнейшай гаспадарча-палітычнай задачай спажывецкай коопэрацыі БССР; пасьпяховае разгортваньне іх мае рашучае значэньне ў справе палепшаньня рабочага забесьпячэньня і ажыцьцяўленьня на справе рашэньняў студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б, які вынес наступную пастанову:

„Пацьвярджаючы пастанову ЦК КП(б)Б ад 6 студзеня 1931 г. аб мерапрыемствах па разгортваньню прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі, пленум ЦК зварочвае асаблівую ўвагу ўсіх партыйных, профэсіянальных і савецкіх організацый Наркомзему і Гарсавету на неабходнасьць сконцэнтраваньня максымуму ўвагі на гэтым важнейшым мерапрыемстве ў справе палепшаньня рабочага забесьпячэньня і прапануе штодзённай і практычнай дапамогай поўнасьцю ажыцьцёвіць плян разгортваньня прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі“.

2. Асноўная програма заданьняў партыі і ўраду па прыгарадных гаспадарках спажывецкай коопэрацыі на 1931 год выражаецца ў наступным: а) асвоіць 25 тыс. га плошчы, б) засеяць пад агародныя культуры 5600 га, в) закласьці 50 тыс. парніковых рам, г) засеяць пад кармавыя культуры 10 тыс. га, д) давесьці малочнае стада да 12 тыс. галоў, е) адкарміць 60 тыс. сьвіней. Ад выкананьня гэтых заданьняў залежыць справа рабочага забесьпячэньня БССР у 1931 годзе, бо продукцыя прыгарадных гаспадарак павінна ў значнай меры задаволіць рабочае забесьпячэньне асноўнымі продуктамі харчаваньня.

3. На аснове пляну забесьпячэньня на 1931 год агульная патрэба і процант задавальненьня асноўнымі продуктамі харчаваньня продукцыяй прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі выражаецца ў наступным: капусты патрэбна 22630 тон—будзе атрымана ў прыгарадных гаспадарках 11414 тон, ці 60 проц. задавальненьня, буракоў патрэбна 7090—будзе атрымана ў прыгарадных гаспадарках 5900 тон, ці 83 проц. патрэбы, морквы патрэбна 4989 тон—будзе атрымана ў прыгарадных гаспадарках 3637 тон, ці 72 проц. задавальненьня патрэбы. Гуркоў патрэбна 8541 тона—будзе атрымана 3658 тон, ці 42 проц. задавальненьня патрэбы.

Агульная патрэба ў малацэ для задавальненьня зачыненых установаў і дзяцей—37108 тон. Таварная продукцыя малака ад прыгарадных гаспадарак павінна быць атрымана ў колькасьці 16985 тон, ці 45 проц. патрэбы. Мяса-сала патрэбна будзе 6874 тоны, будзе атрымана ад адкорму 60 тыс. сьвіней 6467 тон, ці 75 проц. патрэбы.

Выходзячы з гэтага, сэсія савету Белкоопсаюзу прапануе ЦРК і праўленьню БКС разгарнуць ударныя тэмпы працы з тым, каб поўнасьцю выканаць гэта баявое заданьне партыі і ўраду.

4. Становішча прыгарадных гаспадарак у сучасны момант характарызуецца шэрагам розных недахопаў, якія выяўляюцца ў наступным:

а) безгаспадарчай пастаноўцы ў прыгарадных гаспадарках працы;

б) дрэнным утрыманьні жывёлы, нізкім удоі малака, недастатковай таварнасьці яго ў выніку значнага асяданьня на месцы;

в) зрыве плянавых заданьняў па адкорму сьвіней,

г) бясплянавым і безгаспадарчым становішчы будаўніцтва;

д) недастатковым кіраўніцтве з боку сэктару прыгарадных гаспадарак і будаўнічага сэктару БКС прыгараднымі гаспадаркамі на мясцох;

е) амаль поўнай адсутнасьці рабочага контролю над працай прыгарадных гаспадарак.

Выходзячы з гэтага, сэсія савету прапануе Белкоопсаюзу і ЦРК праводзіць далейшае разгортваньне прыгарадных гаспадарак шэрагам рашучых мерапрыемстваў па палепшаньні якасных паказальнікаў, павесьці рашучую барацьбу з безгаспадарчасьцю, дабіцца падвышэньня вытворчасьці працы і максымальнай эфэктыўнасьці ва ўсіх галінах працы прыгарадных гаспадарак.

5. Асноўнай умовай выкананьня заданьняў на 1931 г. зьяўляецца сваячасовая падрыхтоўка і правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі. Тым часам тэмпы падрыхтоўкі да гэтага часу зьяўляюцца зусім нездавальняючымі і не забясьпечваюць поўнага выкананьня плянавых заданьняў, што выражаецца ў наступным:

а) гаспадаркі да гэтага часу не забясьпечаны цягавай сілай і транспартам;

б) недапушчальна марудна ідзе падрыхтоўка да закладкі парніковых рам (асабліва ў Магілеве, Гомелі, Менску).

в) зусім нездавальняюча праходзяць вывазка гною і збор попелу. Усяго вывезена па БССР каля 25 проц., ганебна адстаюць: Гомель, Магілеў, Рэчыца;

г) гаспадаркі не забясьпечаны насеньнем і складаным с.-г. інвэнтаром;

д) катастрофічна становішча прыгарадных гаспадарак ў адносінах забесьпячэньня жывёлы кармамі;

е) адсутнічаюць адпаведныя кадры, асабліва кіруючага складу;

ж) да гэтага часу яшчэ амаль не пачата адгрузка мінэральных угнаеньняў.

Выходзячы з гэтага, сэсія савету Белкоопсаюзу прапануе ЦРК і праўленьню БКС пераключыцца на баявыя тэмпы ў падрыхтоўцы да веснавой пасеўнай кампаніі ў прыгарадных гаспадарках, мобілізаваўшы ўсе сілы на выкананьне ўсёй падрыхтоўчай працы і хутчэйшую ліквідацыю ўжо маючыхся прарываў у падрыхтоўцы да веснавой пасеўкампаніі.

6. Прызнаючы зусім рэальным плян разгортваньня прыгарадных гаспадарак, сэсія савету Белкоопсаюзу лічыць, што пасьпяховая рэалізацыя яго павінна праходзіць пры шырокім удзельнічаньні шырокіх рабочых мас і ўсёй пралетарскай грамадзкасьці, тым часам як праца па прымацаваньню прыгарадных гаспадарак да фабрык і заводаў яшчэ не разгорнута, альбо праходзіць бюрократычным габінэтным парадкам. Сэсія прапануе зьнішчыць такія мэтоды працы і прыняць рашучыя захады да забесьпячэньня сапраўднага штодзённага рабочага контролю над працай прыгарадных гаспадарак, прапанаваць ЦРК у дэкадны тэрмін сумесна з гарпрофсаветамі на мясцох распрацаваць конкрэтны плян прымацаваньня прадпрыемстваў да паасобных вучасткаў прыгарадных гаспадарак, а таксама календарны плян апрацоўкі членамі саюзаў у прыгарадных гаспадарках, шырока абмеркаваўшы гэтыя пляны на сходах фабрык і заводаў.

7. Пасьпяховае правядзеньне ўсёй програмы працы па прыгарадных гаспадарках у асноўным залежыць ад сваячасовага забесьпячэньня гаспадарак неабходнай рабочай сілай, але да гэтага часу не разгорнута праца па вярбоўцы рабочай сілы, таксама не разгорнута праца па будаўніцтву жыльля для рабочых.

Сэсія прапануе ЦРК безадкладна прыняць захады да забесьпячэньня прыгарадных гаспадарак рабочай сілай шляхам шырокай вярбоўкі ў прымацаваных Наркампрацы раёнах, таксама разгарнуць будаўніцтва баракаў, выходзячы з плянавых заданьняў Белкоопсаюзу, разглядаючы гэтае будаўніцтва, як

першачарговую задачу ва ўсім капітальным будаўніцтве. Будаўнічаму сэктару прыняць рашучыя за хады да забесьпячэньня будаўнічымі матар'яламі будаўніцтва баракаў. ЦРК безадкладна прыняць захады да палепшаньня культурна-бытавых умоў рабочых прыгарадных гаспадарак.

8. Констатуючы зусім недапушчальныя нядбайныя адносіны некаторых ЦРК да закладкі парніковых рам, што ставіць пад пагрозу выкананьне заданьняў па выганцы рассады і раньняй гароднiны, сэсія савету прапануе праўленьню БКС наладзіць асобны контроль за ходам выкананьня гэтага важнейшага мерапрыемства з тым, каб да 15 сакавіка поўнасьцю скончыць падрыхтоўчую працу да закладкі парніковых рам.

9. Перажываемыя цяжкасьці з кармамі для жывёлы ў гэтым годзе абавязваюць сыстэму забясьпечыць кармовую базу ў прыгарадных гаспадарках на будучы год. Таму засеў 10 тыс. га кармавымі культурамі зьяўляецца абавязковым для выкананьня. Для зьмякчэньня цяжкага становішча з кармамі ў сучасны момант сэсія савету катэгорычна прапануе спажывецкім таварыствам безадкладна і поўнасьцю выканаць плянавыя заданьні па надрыхтоўцы грубых кармоў, безадкладна адгрузіць маючаеся ў раёнах сена, салому для забесьпячэньня прыгарадных гаспадарак. ЦРК устанавіць стражэйшы контроль за тым, каб захоўвалася максымальная экономія ў выдаткаваньні кармоў у прыгарадных гаспадарках.

10. Сэсія савету констатуе поўную недаацэнку з боку ўсёй сыстэмы спажывецкай коопэрацыі да пытаньня адкорму сьвіней, у сувязі з чым плянавыя заданьні ўраду ў асобным квартале былі сарваны. Першы квартал бягучага году яшчэ ня даў рашучага пералому ў гэтай справе. З гэтае прычыны — сэсія патрабуе ад усёй сыстэмы спажывецкай коопэрацыі прыняць рашучыя захады да безагаворачнага і поўнага выкананьня плянавых заданьняў па сьвінаадкорму. Праўленьню БКС наладзіць асобны контроль і прыцягваць да самай суровай адказнасьці організацыі, якія зрываюць плян адкорму сьвіней. Дабіцца поўнага ахопу эфэктыўнасьці і скарыстаньня ўсіх водкідаў для адкорму сьвіней, прыняць захады да забесьпячэньня гаспадарак, прышчэпнымі, процівачумнымі матар'ямі і дабіцца патаненьня гэтых прышчэпак.

11. Адзначаючы зусім нязначную эфэктыўнасьць малочных фэрм у сувязі з дрэнным даглядам за жывёлай, а таксама значную колькасьць непродукцыйнай жывёлы, сэсія савету прапануе ў 10-дзённы тэрмін закончыць выбракоўку непродукцыйнай жывёлы, дабіцца ня менш 80 проц. таварнага выхаду малака для рабочага забесьпячэньня, таксама дабіцца поўнага выкананьня рашэньня Саўнаркому аб выняцьці з прыгарадных гаспадарак 75 проц. цялят іншым організацыям.

12. Аднэй з асноўных умоў пасьпяховага разгортваньня пляну прыгарадных гаспадарак зьяўляецца максымальная мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў на мясцох, але да гэтага часу гэта яшчэ не аформлена многімі ЦРК і райСТ, якія маюць прыгарадныя гаспадаркі. Настроі аб тым, што ўсё павінна быць прыслана з цэнтру, дэмобілізуе працу на мясцох і зьяўляецца вялікім тормазам у справе хуткага выкананьня плянавых заданьняў. Загэтым сэсія савету прапануе ў далейшай сваёй працы ўсім ЦРК і спажыўтаварыствам зьнішчыць гэтыя настроі і прыняць захады да максымальнага выкарыстаньня наяўных рэсурсаў на мясцох.

13. Напружанае фінансавае становішча і абмежаванасьць сродкаў ставяць задачу—разгарнуць будаўніцтва прыгарадных гаспадарак, у першую чаргу зьвязаных з мерапрыемствамі па правядзеньню веснавой пасеўнай кампаніі, як-та: будаўніцтвам баракаў, закупкай с.-г.

інвэнтару, забесьпячэньнем гаспадарак транспартам і г. д. Сэсія пацьцьвярджае пастанову праўленьня БКС аб недапушчальнасьці распыленьня сродкаў на будаўніцтва на невялікіх вучастках. Прыняць рашучыя захады да ўстанаўленьня жорсткай экономіі сродкаў па будаўніцтву шляхам скарыстаньня старых будынкаў. Безадкладна ЦРК разгарнуць працу па збору мэтавых авансаў на прыгарадныя гаспадаркі ў адпаведнасьці з дырэктывамі ўраду аб зборы 2 мільёнаў руб. на прыгарадныя гаспадаркі. Праўленьню БКС дабіцца дазволу поўнага выкарыстаньня сабраных сродкаў на мэтавае будаўніцтва для прыгарадных гаспадарак.

14. Пацьвярджаючы пастанову праўленьня БКС аб абавязковай організацыі адкормачных пунктаў ва ўсіх спажыўтаварыствах, організацыі малочных гаспадарак у 13 буйнейшых раёнах, дзе ёсьць фабрычна-заводзкія прадпрыемствы, і організацыі гародных гаспадарак у 23 раёнах, сэсія лічыць, што асновай для разгортваньня гэтых гаспадарак павінна быць максымальнае прыцягненьне мясцовых сродкаў, прыстасаваньне для патрэб гэтых гаспадарак старых будынкаў у раёнах, збор мэтавых авансаў. Сэсія лічыць, што продукцыя прыгарадных гаспадарак у раёнах павінна быць скарыстана часткова для забесьпячэньня фабрычна - заводзкіх прадпрыемстваў сельскіх мясцовасьцяй, рабочых сэзоньнікаў і вайсковых частак, а таксама павінна быць дадатковай крыніцай для забесьпячэньня гарадоў. Абавязаць праўленьне БКС дабіцца ад Саюзхлеба ўключэньня жывёлы, якая ёсьць у гэтых спажывецкіх таварыствах, у плянавае забесьпячэньне яе неабходнымі кармамі.

15. Улічваючы, што да гэтага часу ў прыгарадных гаспадарках вытворчасьць працы была вельмі нізкай, у складзе рабочых было шмат чужога элемэнту, зусім адсутнічалі мэтоды соцспаборніцтва, сэсія прапануе прыняць захады да ўкомплектаваньня гаспадарак больш пролетарскім складам, дабіцца падвышэньня вытворчасьці працы шляхам поўнага, максымальнага разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва, праводзячы сваячасовае прэм'яваньне лепшых рабочых ударнікаў за лепшае выкананьне заданьняў.

16. Адзначаючы зусім недапушчальнае зьявішча, поўную адсутнасьць дысцыпліны з боку ЦРК і таварыстваў, непрадстаўленьне сваячасова неабходных зьвестак (да гэтага часу большасьць ЦРК не прадставіла вытворча-фінансавых пляняў, што сьведчыць аб недаацэнцы з боку ЦРК значэньня вядзеньня гаспадарак на строга фінансавых пачатках), сэсія прапануе праўленьню БКС рашуча рэагаваць на гэтыя зьявішчы, не дапушчаючы ў далейшым стыхіі і нядбайнасьці ў гэтай працы.

17. Сэсія савету лічыць, што выкананьне пляну разгортваньня прыгарадных гаспадарак і сваячасовае правядзеньне падрыхтоўкі да пасеўкампаніі патрабуюць ад усіх працаўнікоў сыстэмы максымальнай напружанасьці і перамаганьня ўсіх маючыхся цяжкасьцяй. Сэсія савету даручае праўленьню БКС устанавіць строгі контроль за ходам работ па выкананьню ўсіх мерапрыемстваў, устанавіць поўнае адзінаначальле зьверху данізу ў кіраўніцтве прыгараднымі гаспадаркамі і пэрсанальную адказнасьць кожнага працаўніка за даручаную працу.

# Аб выкананьні дырэктыў ЦК ЎсеКП(б) і СНК СССР

## па арганізацыі прыгарадных гародаў

### Пастанова комісіі выкананьня пры СКН СССР

Заслухаўшы даклад прадстаўнікоў Цэнтрасаюзу СССР тав. Іванова, нам. НКЗему СССР тав. Гардзеева і судаклад прадст. НК РСІ тав. Крыніцкага аб выкананьні дырэктыў партыі і ўраду аб організацыі прыгарадных гародаў плошчай у 300.000 га, комісія выкананьня Саўнаркому СССР константуе:

а) важнейшыя дырэктывы аб організацыі прыгарадных гародаў у разьмеры 300.000 га, якія маюць сваёй мэтай значнае паляпшэньне забесьпячэньня гароднінай рабочых прамысловасьці і транспарту, выконваюцца спажывецкай коопэрацыяй, органамі НКЗему і профорганізацыямі нездавальняюча;

б) спажывецкая коопэрацыя і профсаюзы не організавалі своечасова прымацаваньня гародаў да прадпрыемстваў прамысловасьці і транспарту, у рэзультаце чаго будаўніцтва прыгарадных гаспадарак праходзіць да гэтага часу у большасьці выпадкаў, без актыўнага ўдзелу рабочых;

в) органы НКЗему недапушчальна спазьніліся з адводам зямель пад гароды і не забясьпечылі аградапамогу і інструктаж у справе будаўніцтва прыгарадных гародаў спажывецкай коопэрацыі. Комісія выкананьня, ухваляючы пастанову прэзыдыуму ЦКК УсеКП(б) і Колегіі НК РСІ СССР ад 3 сакавіка аб правядзеньні плодаагароднай кампаніі, пастанаўляе:

1. Усю ўвагу Цэнтрасаюзу і яго мясцовых органаў у разгортваньні гароднай гаспадаркі сконцэнтраваць у сучасны момант на такой організацыі справы, якая забясьпечвала-б здавальняюча ўраджай прыгарадных гародаў, прычым НКЗем СССР павінен забясьпечыць адпаведны інструктаж коопэрацыйных органаў для правядзеньня гэтай справы.

2. Лічыць, што асноўнай задачай прыгарадных гародаў спажывецкай коопэрацыі зьяўляецца забесьпячэньне рабочых і іх сем'яў сьвежай і асабліва раньняй гароднінай. У гэтых мэтах усе адведзеныя пад агароды землі павінны быць прымацаваны да паасобных прадпрыемстваў Продукцыя гародаў, прымацаваных да данага прадпрыемства, поўнасьцю передаецца гэтаму прадпрыемству для забесьпячэньня заводзкіх сталовак, рабочых і іх сем'яў.

Прыняць прапанову ЎсеЦСПС, каб даны рабочы коопэратыў, апіраючыся на пастановы рабочых сходаў, акрэсьліваў парадак прыцягненьня рабочых, у вольны ад работы час, а таксама членаў іх сем'яў да пэўных работ на прыгарадных гародах.

3. Абавязаць НКЗем СССР скончыць адвод зямель пад прыгарадныя гаспадаркі ва ўсіх раёнах і, у прыватнасьці, Маскоўскай вобласьці Ніжагародзкім краі, Уральскай і Іванаўскай абласьцях не пазьней 10 красавіка.

4. Абавязаць тав. Чурнікава (саюз Насеннаводаб'яднаньня), тав. Радчанку (Цэнтрасаюз СССР) і тав. Лебедзева (саюз Плодагароднiны) скончыць да 20 красавіка выкананьне ўсяго гадавога пляну загатовак насеньня, асабліва па раньняй гародніне (морква, гуркі, бабовыя, раньняя бульба і радыска).

5. Скасаваць пастановы абласных і рэспубліканскіх органаў па Паўночным Каўказе, Закаўказьзі, Сярэдняй Волзе, Ніжагародзкім краі і Татрэспубліцы, якія затрымліваюць пярэкідку гароднага насеньня ў іншыя раёны.

6. Прапанаваць:

а) мэліярацыйным трэстам НКЗ РСФСР і УССР выканаць заключаныя спажывецкай коопэрацыяй дагаворы на мэліярацыйныя работы ў прыгарадных гаспадарках (пабудова заставак, капаньне студняў, устаноўка абсталяваньня для паліўкі дакладна ў тэрміны, прадугледжаныя дагаворамі;

б) мясцовым організацыям шырока ўжываць прасьцейшыя пабудовы і абсталяваньні для паліўкі (драўняныя жалабы, ветракі, самацёчныя абвадненьні, конная цяга).

7. Комісія выкананьня паказвае на адказнасьць абласных і краёвых органаў спажывецкай коопэрацыі, у асобе старшынь праўленьня, за сваячасовыя прымацаваньні гароднай плошчы да прадпрыемстваў, забесьпячэньне іх насеньнем і сельгасінвэнтаром, вярбоўку пастаяннай рабочай сілы, пабудову неабходных жыльлёвых і гаспадарчых будынкаў. Комісія выкананьня асабліва падкрэсьлівае пэрсональную адказнасьць за выкананьне паказаных дырэктыў т. т. Петрасяна і Капяліцкага (Маск. вобласьць), т. т. Фэрганіна і Міхельмана (Лен. вобласьць), т. Міхайліка *(УССР)*, тав. Кірава (Урал).

8. Прыняць да ведама, што адказнасьць за сваячасовае правядзеньне ўсіх мерапрыемстваў па асваеньні 300 тыс. га пад прыгарадныя гароды праўленьнем Цэнтрасаюзу ўскладзена на тав. Радчанку, а НКЗемам СССР за адвод зямлі пад гароды і організацыю інструктажу з боку яго органаў—на тав. Гардзеева.

Старшыня комісіі выкананьня пры СНК СССР *В. Молатаў* (*Скрабін*).

Сэкратар комісіі выкананьня *І. Мяжлаўк.*

Масква. Крэмль, 3 красавіка 1931 г.

---

**„У РАБОЦЕ СЕЛЬСКАЙ КООПЭРАЦЫІ ПАВІННА БЫЦЬ ЗАБЯСЬПЕЧАНА КІРУЮЧАЯ РОЛЯ КОЛГАСЬНІКАЎ“**

**(З рэзолюцыі аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б)).**

---

# Бібліографія

**Р. Ф. Мэйерсон. „Як правільна ўбіраць лён“ БДзВ. Менск. 1931 г. Стар. 38.** *Цана 10 к.*

Правільная ўборка ўсякага збожжа наогул мае вялікае значэньне як у сэнсе якасьці харчовай продукцыі, так і ў сэнсе разьвіцьця пароды продукцыі і разьвіцьця пароды насеньня. Асаблівай ўвагі да сябе патрабуе ўборка ільну. Ледзь-ледзь няправільная ўборка ільну цягне за сабой ня толькі псаваньне зерняці-насеньня, але і дрэнна адбіваецца на валакне.

На лён, як расьліну, як сыравіну для нашай тэкстыльнай прамысловасьці, як на масьлісты продукт трэба зварочваць асабліва сур'ёзную ўвагу. У БССР гэта сыравіна культывуецца амаль кожным індывідуальным гаспадаром, а ў апошні час, яна культывуецца дзесяткамі гэктараў у нашых колгасах і саўгасах, але недастатковы догляд за гэтай расьлінай, няправільная яе ўборка прыносіць вялікую страту для гаспадаркі.

Невялічкая кніжачка Р. Ф. Мэйерсона, „Як правільна ўбіраць лён“ дае неабходныя і каштоўныя тлумачэньні, як трэба абыходзіцца з ільном, калі ён высьпее.

У гэтай кніжачцы аўтар зазначае, што важнае значэньне мае час уборкі ільну на зерне-насеньне і валакно, што самы час уборкі, уборка не ў пару, балюча адбіваецца на насеньні, псуе насеньне, зьніжае яго каштоўнасьць як насеньня, так і харчовага продукту. Таксама аўтар зазначае, што вялікае значэньне мае для зерняці і валакна сартаваньне сьцяблоў. Сартаваньне сьцяблоў па іх аднароднасьці спрыяе паляпшэньню наступнаму пасеву—ураджаю.

У кніжачцы ёсьць спэцыяльны разьдзел пра сушку ільнянай саломы. Мы ведаем, што сушка ільнянай саломы мае вялікае значэньне для якасьці валакна. Пры правільнай сушцы ільнянай саломы атрымоўваецца высока-якаснае валакно для тэкстыльнай прамысловасьці. А гэта не заўсёды мы маем у нашых гаспадарках, дзе сеюць лён. Там часта ў сушыльні псуюць валакно, робяць яго ня зусім добрым для нашых фабрык. У гэтым сэнсе кніжачка дае вельмі каштоўныя парады.

Аўтар кніжачкі таксама зазначае на значэньне адбору галовак. Адборка галовак спрыяе ўзьняцьцю ўраджайнасьці.

Наогул кніжачка, ня гледзячы на звужваньне ёю пытаньня, можа быць карысным пасобнікам для ільняных гаспадарак.

**Насоўскі**

---

**Карп Кіпрыянец. „За вынаходніцтва, рацыяналізатарства і масавыя досьледы па сьвінагадоўлі“ БДВ. Менск. 1931 г. Стар. 32.** *Цана 15 кап.*

Сьвінагадоўля мае надзвычайна актуальнае значэньне. Гэта значэньне павялічваецца ў зьвязку з вырашэньнем мясной проблемы. Перад сьвінымі гаспадаркамі ставіцца зараз задача—даць добрую продукцыю, разьвесьці добры маладняк, павялічыць колькасьць сьвіней у гаспадарцы.

Гэтыя задачы вырашаюцца і даюць добрыя вынікі ў залежнасьці ад таго, наколькі правільна організавана сьвіная гаспадарка, паколькі правільны догляд сьвіней, наколькі гаспадарка забясьпечана ўсім тым, што ёй патрабуецца для разьвіцьця. У нашых сьвіных гаспадарках ёсьць яшчэ вельмі шмат розных недахопаў. Часта загадчыкі гэтых гаспадарак добра ня ведаюць, як патрэбна даглядаць сьвіней, каб атрымаць максымальную продукцыю. Ад кепскага догляду сьвіньні часта дохнуць.

Каб пазбавіцца ўсяго гэтага, трэба мець некаторыя веды, як даглядаць сьвіней. Да гэтага часу ў нас было зусім мала популярнай літаратуры, праз якую можна было-б пазнаёміцца з гэтай справай. Асабліва мала было такой літаратуры, разьлічанай на вялікія колектыўныя сьвіныя гаспадаркі.

Рэцэнзуемая кніжачка бязумоўна зьяўляецца аднэй з кніжачак, якія разьлічаны на буйныя сьвіныя гаспадаркі ва ўмовах калгасаў і саўгасаў.

Гэта кніжачка знаёміць ня толькі з тым, як даглядаць сьвіней, як іх разводзіць, як іх карміць, будаваць для іх сьвінарнікі і іншае, але і дае неабходныя веды чыста організацыйнага парадку.

Аўтар кніжачкі ўвязаў організацыйнае пытаньне, пытаньне наогул рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, з пытаньнем сьвінагадоўлі. Аўтар, праўда, коратка тлумачыць, як вядуцца досьледы па сьвінагадоўлі, які харч неабходны маладняку і бэконным сьвіньням,

як пазбавіцца ад заразнай хваробы, якое значэньне мае вэтэрынарны профіляктычны мінімум, тэмпэратура і іншае.

Кніжачка бязумоўна карысная для кіраўніцтва сьвіной гаспадаркай. Недахоп яе зьмяшчаецца ў тым, што яна ня зусім даступна для кожнага колгасьніка, для тых, хто непасрэдна зьвязан з доглядам сьвіней.

Яна напісана некалькі з навуковай нацягнутасьцю і перасыпана многімі лічбамі.

З прычыны гэтых недахопаў кніжачка, бадай ці даступна шырокаму колу чытачоў, якія маглі-б добра азнаёміцца з пытаньнем сьвінагадоўлі.

Але ня гледзячы на гэтыя нязначныя недахопы, гэту кніжачку трэба распаўсюдзіць у нашых колгасах і саўгасах. Яна будзе карыснай ў сэнсе узьняцьця сьвінагадоўлі.

**Мерлін**

*Рэдакцыйнае калегія—Рэдактар* Гінзбург

*Выдавец*—Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз